

# "САКАВІК"

**незалежны перыядычны *on-line* часопіс**
**у падтрымку беларускай культуры**
**і беларускасьці**

# №4

# Сьнежань 2013

*Часопіс заснаваны ў сьнежні 2012 года*

*Выходзіць раз на тры месяцы*

*Аттава, Канада*

## Дарагія сябры!

Часопіс “САКАВІК” заснаваны як незалежнае перыядычнае выданьне, прызначанае для абмеркаваньня праблем беларускай культуры і развіцьця беларускасьці.

Часопіс змяшчае арыгінальныя аналітычныя артыкулы, эсэ, а таксама абгрунтаваныя дыскусіі і каментары па гісторыі, мове, літаратуры, сацыялогіі, традыцыях і іншых пытаньнях, маючых дачыненьне да развіцьця беларускай нацыі.

Беларуская Мова – асноўная мова часопіса, але магчымы публікацыі і на іншых мовах.

Запрашаем да супрацоўніцтва ўсіх зацікаўленых.

*Свае матэрыялы дасылайце на* chasopis.sakavik@hotmail.com



*Наступны нумар часопіса выйдзе ў сярэдзіне сакавіка 2014 года*

## Зьмест часопіса «САКАВІК» №4, сьнежань 2013

**(стар.)**

*Са спадчыны прафесара Крукоўскага*



**16.10.1923 – 30.09.2013**

# МІКОЛА КРУКОЎСКІ: ЦЫКЛІЧНЫ ХАРАКТАР САЦЫЯКУЛЬТУРНАГА РАЗВІЦЦЯ ГРАМАДСТВА І ЯГО ПРЫЧЫНЫ З ПУНКТУ ГЛЕДЖАННЯ ТЭАРЭТЫЧНАЙ КУЛЬТУРАЛОГІІ

Тое, што культура развіваецца цыклічна, ці, як пісалася некалі ў нас на Беларусі, па сінусоідзе, сёння можна лічыць ужо агульнапрынятым фактам. Нават у Маскве, дзе гэтая канцэпцыя не прымалася вельмі актыўна, аказаліся выдадзенымі на гэтую тэму дзве вялікія манаграфіі[1]. Такая марудлівасць з прыняццем гэтае канцэпцыі там

1

толькі цяпер, калі нават у Беларусі рабіліся спробы яе прыняцця адносна развіцця культуры мастацкай, не кажучы ўжо аб дастаткова даўнім і пашыраным яе распаўсюджанні на Захадзе, пачынаючы з Віка і Гегеля і заканвачаючы Шпенглерам, Тойнбі і Сарокіным, тлумачыцца як увогуле нізкім узроўнем тагачаснай філасофскай адукаванасці[2], прыдушанай афіцыйнай ідэалогіяй, так і наўмысна адмоўнымі адносінамі да гэтай канцэпцыі менавіта з боку ўлад, якія баяліся, і баяліся справядліва, рэальнай небяпечнасці яе для гэтай ідэалогіі. У плане апошняга тут вельмі цікава тое, што можа здацца на першы погляд нават алагічным парадоксам. З аднаго боку, канцэпцыя аб цыклічнасці працэсу сацыякультурнага развіцця выглядала (і была ў сапраўднасці ў пэўным сэнсе такой!) моцнай філасофскай падтрымкай для вучэння аб развіцці ў кірунку гарманічнага стану грамадства, што з’яўлялася і асноўным ідэйна-палітычным лозунгам савецкай улады з яе ідэаламі камуністычнай гармоніі як найвышэйшага ўзроўню сацыяльнага развіцця. З боку ж другога, яна выразна паказвала, што савецкае грамадства з яго, здавалася б, такой магутнай сістэмай “развітога сацыялізму” пачынала ўжо тады неадступна хіліцца да свайго ўпадку з канечным распадам у канцы.[3] У гэтым, аднак, заключалася не какетлівая са сваёй лагічнай алагічнасцю парадаксальнасць, а вядомая ўсёй філасофіі яшчэ да Гегеля і так зневажаная невукамі-рэфарматарамі сёння дыялектычая логіка. Логіка, вядомая не толькі ў стылі сталінскага “Краткого курса истории КПСС”, або ленінскіх больш-менш здавальняючых “Философских

---

Характэрна, што у расійскай правінцыі канцэпцыя тая стала прыймацца яшчэ раней, чым у сталіцы: гл., В.И. Пантин. Циклы и ритмы истории. Рязань, 1996, і, што самае цікавае, цыклічнасць гэтым аўтарам стала разглядацца на матэрыяле не мастацкай культуры, як некалі ў нас на Беларусі, а культуры матэрыяльнай на базе вядомай канцэпцы колішняга сябра Сарокіна, расстралянага пры Саветах, эканаміста М.Д. Кандрацьева.

2 Трэба ўвесь час памятаць, аднак, што ўзровень гэты быў, тым не менш, непамерна вышэйшым па ступені грамадскай зацікаўленасці ў філасофіі ў параўнанні з цяперашнім, не толькі ў нас і ў Маскве, але і на Еўрапейскім Захадзе проста жахлівым станам справы ў гэтых адносінах, калі ўжо адно толькі слова “філасофія” становіцца ледзьве не лаянкай, што, між іншым, само ўжо па сабе, як убачым, па-свойму падцвярджае гэтую канцэпцыю.

3 Гэта выразна можна адчуць на прыкладзе выкарыстання найважнейшага ў класічным марксізме тэзіса аб суадносінах прадукцыйных сіл і вытворчых адносін у нашай манаграфіі “Логіка прыгажосці”, за што нас некалі абвінавачвалі нават у вульгарным сацыялагізме, не заўважаючы выразнага прасвечвання скрозь гэтыя марксавы катэгорыі дыялектычнай логікі яго вялікага настаўніка Гегеля і таго, што ўжо нават з пазіцый гэтай марксістскай катэгорыі можна было выразна прадбачыць будучы крызіс і распад Савецкага Саюза.

тэтрадей", але і марксавага (запазычанага ім у Гегеля) тэзіса, што ўсё ў гісторыі сустракаецца двойчы: першы раз як трагічнае, а другі раз – ужо як фарс[4].

Гэтая ж логіка ў форме, ачышчанай ад марксізму-ленінізму і падмацаванай сучаснай агульнай тэорыяй сістэм, дапаможа, спадзяемся, прасунуцца тут далей у разуменні канцэпцыі цыклічнага развіцця ў сацыякультурным працэсе і прасунуцца менавіта ў кірунку асноўных *прычын* цыклічнасці, ці як мы некалі пісалі, сінусаідальнага характару гэтага развіцця. Гэта тым болей неабходна не толькі таму, што сёння гэта амаль што відавочны факт, але і таму, што адносна навукова-эмпірычнага падцверджання гэтай канцэпцыі сабрана ўжо проста гіганцкая колькасць фактычнага матэрыялу. Узяць хоць бы адну толькі знакамітую, выдадзеную нарэшце і ў рускамоўным перакладзе, "Сацыяльную і культурную дынаміку" Піцірыма Сарокіна. Дастаткова вялікі фактычны матэрыял скарыстоўваецца і ў вышэйпамянёных маскоўскіх выданнях. Але ўсё яшчэ з-за існуючага там пакланення перад постмадэрнізмам і характэрнай для яго арыентацыяй на хаос як на апошнюю сёння форму ісціны, чаго не пазбегла нават модная сёння сінэргетыка[5], ніякага, як

---

4 Менавіта гэты не вельмі тады ясны нават некаторым марксістам тэзіс і быў некалі пакладзены намі ў аснову працы "Логіка прыгажосці" (Менск, 1965).

5 Зрэшты, і ў сінэргетыцы, хоць яна и "близка к основным идеям постмодернизма" і "разрушить уходящий в древность стереотип страха перед хаосом, увидеть красоту (?!) и конструктивность (?!) хаоса – это tour de force, настоящий подвиг синергетики" (гл.: Князева Е. Н., Курдюмов С. П. Основания синэргетики. С.-Пб., 2002, стр. 65, 68), -- і ў сінэргетыцы, нягледзячы на гэткі яе tour de force у карысць хаосу, ў Расіі назіраецца ўжо пэўны адыход ад такога кампраметуючага сінэргетыку нізкапаклонства яе перад постмадэрнізмам і паступовая пераарыентацыя яе на агульную тэорыю сістэм. Гэта асабліва становіцца прыкметным, калі ўважліва ўчытвацца ў далейшы тэкст азначанай манаграфіі, які па свайму сэнсу амаль што поўнасцю абвяргае прыведзеныя вышэй цытаты, (напрыклад, сцверджаннем аб неаабходнасці развіцця розуму ў Сусвеце (стар. 79), што відавочна супярэчыць агульнай настроенасці постмадэрнізму супраць так ім называнага "логацэнтрызму"). Гэта, дарэчы, таксама ёсць яшчэ адзін прыклад справядлівасці абмяркоўваемай тут канцэпцыі цыклічнасці працэсу развіцця, бо што гэта, калі не чарговы фазавы парстрэт самой філасофіі ў асобе сінэргетыкі на нізыходзячай галіне нашай сінусоіды, на фазе ўпадку? Партрэт, праўда, чыста знешні і ўзніклы ўжо толькі ў выніку своеасаблівай замбіраванасці аўтараў сляпою вераю ў абсалютную ісціннасць постмадэрнізму толькі таму, што ён *сучасны* і ёсць нешта *новае*, хоць і злаякасныя *нова*ўтварэнні могуць часам з'яўляюцца не толькі ў медыцыне!. Зрэшты, усё тое заслугоўвае спецыяльнага артыкулу, бо мае ўжо і непасрэдныя адносіны да тэарэтычнай культуралогіі.

здаецца, пытання аб прычынах азначанай цыклічнасці ў аўтараў гэтых выданняў і не ўзнікала. Ды і самога Сарокіна маскоўскія калегі ўсё яшчэ схільныя несправядліва абвінавачваць у “пустом проповедничестве и разгуле субъективизма”[6]. Аднак, і ў Сарокіна, нягледзячы на так часта пазначаныя ім пытанні “чаму?” і “як?”, здавальняючага нас сёння адказу на гэтае пытанне, акрамя спасылак на таямнічыя “першыя прынцыпы” ў выглядзе “іманентнага самарэгулявання сацыякультурнага працэса”,[7] мы не знойдзем. Апроч таго, тое, што ён пастаянна карыстаецца для азначэння фаз гэтага цыклічнага працэсу тэрмінам “флуктуацыі”, узятым, і ўзятым зусім не выпадкова, з тэорыі верагоднасці, якая мэтай свайго вывучэння якраз і мае азначаную выпадковасць, -- усё гэта можна тлумачыць і як выраз пэўнага яго сумнення, што першыя прынцыпы гэтыя ўвогуле не маюць характару нейкай законамернасці, у чым ён часам і сам прызнаецца. Неабходна таксама адразу ж папярэдзіць чытача, што рухацца пры дадзеным аналізе мы будзем, так бы мовіць, не знізу ўверх, ад асабліва-адзінкавага да агульнага, паводле так упадабанага і Шпенглерам, і Тойнбі, і Сарокіным эмпірычнага метаду, а, наадварот, зверху ўніз, у адпаведнасці з традыцыйна гегелеўскай і сучаснай тэарэтыка-сістэмнай даследчай методыкай, называнай звычайна дэдукцыяй[8]. Такая ж методыка, як вядома, ужываецца і ў тэарэтычнай культуралогіі.

Само навуковае паняцце і адпаведны яму тэрмін “цыклічнасць” у адносінах да сацыякультурнага працэсу не можа лічыцца ўдалым з-за пэўнай аднабаковасці. Яно само, так бы мовіць, “зацыкліваецца” толькі на адной сваёй, як кажуць матэматыкі, кампанэнце, а менавіта на прыкмеце паўтаральнасці, і абмяжоўваецца толькі паняццем кругавога паўтору, што яшчэ ў глыбокай старажытнасці гаварылася

---

6 Крёбер А. Избранное: природа культуры. М., 2004., стр. 975 (примечания редакторов Изд-ва “Росспэн!).

7 Сорокин П.А. Социальная и культурная динамика. М., 2006 г., стр. 795. (Калі глядзець, зрэшты, на гэтыя тэрміны з сённяшняга пункту гледжання, дык можна было б нават і ўхваліць Сарокіна за прадбачанне развіцця кібернетыкі і агульнай тэорыі сістэм, якія якраз і займаюцца менавіта гэтымі прынцыпамі іманентнай самарэгуляцыі, пра што ніжэй і будзе больш падрабязная гаворка). Ды і далейшы сарокінскі тэрмін “флуктуацыя” таксама мае сваім сэнсам спецыфічную агульную заканамернасць, якая рэалізуецца праз паасобныя выпадковыя факты (у матэматыцы такая заканамернасць азначаецца як карэлятыўная залежнасць у адрозненні ад залежнасці функцыянальнай, што азначае заканамернасць у прамым сэнсе слова)).

8 Тэрмін “дэдукцыя” ўжываецца тут не ў яго крайнім, абсалютызаваным значэнні, а хутчэй як супрацьстаўленне крайнасцям сучаснага амаль зусім ірацыянальнага эмпірызму.

грэкамі, рымлянамі, арабамі і іўдзеямі на Еўрапейскім Захадзе і індусамі і кітайцамі на Далёкім Усходзе (узгадаем хаця б кругі Піфагора і Эклезіяста). Графік лініі развіцця ўключае ў сябе і другую кампаненту, тое, што звычайна адлюстроўваецца пастаяннаўзыходзячай прамой, як некалі думалася французскаму філосафу Кандарсэ, і якая таксама, будучы ўзятай паасобку, не можа нас задаволіць. Філосафы і вучоныя-гуманітарыі, малазнаёмыя звычайна з матэматыкай, звярталіся тут за дапамогай, як, напрыклад, Ленін, да метафарычнай спіралі. Метафара са спіраллю, аднак, цяжка паддавалася дастаткова строгай тэарэтыка-сістэмнай інтэрпрэтацыі, хоць яе і спрабаваў ужыць пры сацыякультурным аналізе (ці не з традыцыйнай павагі да марксізму-ленінізму?) і сучасны спецыяліст па так званай інфармацыйнай цывілізацыі Р.Ф. Абдзееў[9]. Так што і сёння прыходзіцца карыстацца лепш ужо знаёмаю нам сінусоідай, што ўдала спалучае ў сабе і выразную нагляднасць зрока-пачуццёвага вобразу і строга-сэнсавую змястоўнасць хоць і спрошчанай, але дастаткова строгай логіка-матэматычнай мадэлі, чым сёння, дарэчы, шырока карыстаецца ў далейшым і той жа Абдзееў і чым пачалі карыстацца і мы ў Беларусі яшчэ амаль паўстагоддзя таму назад[10].

Гаворачы аб сінусаідальнасці працэсу сацыякультурнага развіцця, магчыма без асаблівай цяжкасці ўяўляць сабе і пастаянную кампаненту гэтай пераменнай у форме ўжо не ўзыходзячай прамой а la Кандарсэ, а ўзыходзячай сінусоіды, г. зн., таксама пераменнай, але ўжо значна больш шырокага масштабу, знаходзячы тым самым і аналагічную мадэль для таго, што Сарокін называў у свой час суперцыклам, аб чым мы ўжо пісалі і аб чым адносна больш падрабязная размова будзе наперадзе. Але перш за ўсё тут павінен быць азначаны больш дакладна самы сэнс гэтай пераменнасці сацыякультурнага працэсу.

Калі зірнуць у гісторыю праблемы, дык няцяжка заўважыць, што падобная апора на знешнюю метафарычнасць за адсутнасцю разумення ўнутранага, істотнага сэнсу, назіраецца і ў ранейшых разважаннях на тэму сацыякультурнага гістарычнага працэсу. Ужо ў тых, хто па традыцыі лічыцца заснавальнікамі цыклічнай канцэпцыі сацыякультурнага развіцця, як, напрыклад, расіянін М. Данілеўскі і немец О. Шпенглер, мы сустракаем такую апору на метафары тыпу параўнання гэтага працэсу або з працэсам развіцця паасобнай расліны (Данілеўскі), або са зменамі сезонаў года

---

9 Абдеев Р.Ф. Философия информационной цивилизации. М., 1994, стр. 103.

10 Крюковский Н.И. Логика красоты. Минск, 1965.

(Шпенглер). Характэрна, што пры гэтым зусім не ўзгадваецца Гегель, у якога мы аналагічныя спасылкі на метафары сустракаем толькі пераважна як дапаможныя ілюстрацыі (і ў негатыўным плане!) да адпаведных строга лагічных разумаванняў, ускрываючых істотны, унутраны сэнс азначаных цыклаў і іх перыядаў, што і ставіць яго, як тое ні дзіўна і як мы не раз ужо пісалі, у адзін шэраг з заснавальнікамі сучаснай кібернетыкі і агульнай тэорыі сістэм – Берталанфі, Вінерам і Эшбі. І дзеля аднаўлення гістарычнай справядлівасці ў адносінах да па-сапраўднаму вялікага філосафа мы дазволім тут сабе працытаваць адпаведнае тэксту месца са знакамітай гегелеўскай "Эстэтыкі": "Кожнае мастацтва перажывае перыяд росквіту, калі яно дасягае поўнага развіцця як мастацтва; па той бок маецца папярэдні гэтаму завяршэнню перыяд, па гэты – перыяд, што ідзе за ім. Яны не з'яўляюцца непасрэдна адпаведнымі ўнутры пэўнай вобласці, *падобна ўтварэнням прыроды* (курсіў наш – М.К.), а ўяўляюць сабой штосьці, што пачынаецца, рухаецца наперад, дасягае завяршэння і заканчваецца – рост, росквіт і ўпадак[11]". Г.зн., працэс развіваецца ў чыста лагічным сэнсе, і ў далейшым тэксце Гегель абыходзіцца толькі лагічнай дэдукцыяй без аніякіх метафар. Апошняе тым болей магчыма сёння пры адносна высокай развітасці тэарэтыкасістэмнай метадалогіі з пэўнай ступенню ўжо і матэматызацыі яе апарата, з дапамогай якога мы можам апісваць з задавальняючай дакладнасцю і працэс развіцця сацыякультурных сістэм. Каб упэўніцца ў гэтым, дастаткова ўспомніць хоць бы колішнія распрацоўкі чатырохзначнай логікі ў Польшчы Л. Рагоўскім[12] і ў Беларусі намі[13], а ў Заходняй Еўропе тэорыі размытых мностваў (fuzzy sets) Л.Задэ[14] і А. Кафманам[15] (той сумны факт, што прыходзіцца тут спасылацца на такія даўнія, але не старэючыя і сёння публікацыі, і сам сведчыць аб сённяшнім пад уплывам постмадэрнізму ўпадку сур'ёзнай навукі ў свеце, фіксуючы тым самым і праўдзівасць разгляданае тут канцэпцыі).

Следуючы дэдуктыўнай методыцы навукі, трэба ўвесь час памятаць, што абсалютызацыя гэтай методыкі можа прывесці ў тупік нават самую дасканалую ідэалістычную філасофію, што, дарэчы, і здарылася з правым крылом гегельянства.

---

11 Гегель. Эстетика, т. 3, стр. 8, М., 1970.

12 Rogowski L. Sens logiczny heglowskiej koncepcji sprzecznosci, zmiany i ruchu . "Studia filozoficzne", 6 (27), 1961.

13 Крюковский Н.И. Кибернетика и законы красоты. Минск, 1977, стр. 8, 201, 203.

14 Zadeh L. A. Fuzzy sets and systems. N.-Y., 1966.

15 Introduction a la theorie des sous-ensembles flous. Masson, Paris-New, 1977 (ёсць рускі пераклад).

Неабходна строга прытрымліваецца сапраўднай дыялектычнасці цэласнай філасофіі і не забывацца на гэтак жа важную тут для нас і другую "нагу" нашага аналізу -- эмпірычную індукцыю, каб аналіз той не кульгаў, як папярэджваў у сваім "Фядоне" яшчэ вялікі Платон. Хоць культуралогія і здольная карыстацца матэматыкай, як, напрыклад, геадэзія, што мае, як мы ўжо пісалі[16], справу з аб'ектам гэтак жа амаль высокай, як у культуры, дысперсіі, але трэба мець на ўвазе яшчэ адносную маладосць тэарэтычнай культуралогіі і яе пачатковасць у сферы матэматызацыі. Ды і такія звышматэматызаваныя тэарэтыкі, як заснавальнікі кібернетыкі і агульнай тэорыі сістэм Н. Вінер і У.А. Эшбі, не грэбавалі звяртацца ў сваіх распрацоўках да індуктыўнай эмпірыі, а таксама да метафар. Вінер, напрыклад, параўноўваў азначаную цыклічнасць працэсу развіцця са своеасаблівым, на марскі манер, рысканнем сістэмы[17], а Эшбі – з мёртвым часам і - няўстойлівасцю ў сувязі з гэтым унутры - вельмі вялікай сістэмы[18]. Таму і мы тут часова звернемся зноў да гэткай індуктыўна-эмпірычнай методыкі і працягнем наш аналіз цыклічнасці ў сферы гісторыі сацыякультурнага працэсу як пэўнага рыскання вельмі вялікай і таму няўстойлівай сістэмы з так званым мёртвым часам. Зразумела, што пад назвай вельмі вялікай эшбіевай сістэмы тут павінна выступаць не нейкая канкрэтная сацыякультурная сістэма, як, напрыклад, дзяржава або нацыя, і нават не канкрэтны рэгіён, падобны Еўропе або Азіі, а ўсё чалавецтва, разглядаемае як пэўная адзіная цэласнасць. Бо азначаная цыклічнасць, або, кажучы словамі Вінера, рысклівасць культур, уласціва ўсім рэгіёнам заселенай чалавекам айкумены. І размова тут ужо будзе, па сутнасці, не аб працяглай лініі "рысклівасці" ў форме сінусоіды, а аб нейкім толькі адзіным, падобным да гаўсавай крывой з тэорыі верагоднасцей, цыкле гэтай сінусоіды з яго пад'ёмам, росквітам і спадам. Тым, што яшчэ Сарокін называў у свой час суперцыклам.

Мы і раней ужо бачылі, як цяжка спалучаюцца ў чалавеку ідэальнае і матэрыяльнае, пачынаючы з вечнага супрацьстаяння паміж сабой яго цела і душы і канчаючы гэткім жа супрацьстаяннем паміж матэрыяльнай і духоўнай культурамі ў гісторыі чалавечага грамадства з іх чарговымі ўзлётамі і падзеннямі (сёння, напрыклад, наша бедная духоўная культура з яе высокімі некалі ідэаламі якраз і знаходзіцца ў самым глыбокім заняпадзе).

---

16 Крукоўскі М.І. Тэарэтычная культуралогія: наколькі яна можа быць дакладнай навукай? // Веснік Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў, № 9, 2008.

17 Винер Н. Кибернетика или управление и связь в животном и машине. М., 1968.

18 Эшби У.Р. Конструкция мозга. М., 1962.

Гэта апошняе якраз і мела месца пры ўзнікненні самога чалавецтва, чалавецтва менавіта як падсістэмы яшчэ больш шырокай сістэмы – прыроды. Чалавецтва, як вядома, ўтварылася ў перыяд чацвярцічнага абледзянення, калі амаль уся жывая прырода перажывала глыбокі крызіс з прычыны катастрафічных, падобных да сучасных змен у кліматычным асяроддзі планеты, на значэнне чаго для чалавецтва і яго гісторыі наша навука толькі цяпер, па сутнасці, і пачала звяртаць належную ўвагу. Многія віды прадстаўнікоў расліннага і жывёльнага свету тады або гінулі, або тэрмінова міграваліў больш прыймальныя для іх геаграфічныя зоны і прыродныя ўмовы, або змушаны былі неяк прыстасоўвацца да нязвыкла новага навакольнага асяроддзя. У ліку апошніх апынуліся і продкі чалавека, жыўшыя дагэтуль таксама як добра прыстасаваныя і ўзброеныя сістэмай сваіх інстынктаў жывёлы-гамініды ў пэўнай гармоніі са сваімі тагачаснымі геаграфічнымі і прыроднымі ўмовамі. Але, з прычыны катастрафічна імклівай хуткасці змены тых умоў, пры надыходзе ледніковай эпохі і, перш за ўсё, змен тэмпературных у акаляючым іх асяроддзі, ні анатамічна ні фізіялагічна паспець прыстасавацца да гэтых змен яны ўжо не маглі. Прыстасавацца можна было толькі ў сферы сістэмы сваіх паводзін, карэнным чынам трансфарміраваўшы ўсю існавалую раней, пераважна інстыктыўную, сістэму адкрытых Дарвінам і тыповых для жывёл законаў бязлітаснай барацьбы за існаванне, трансфарміраваўшы ўсё гэта ў новую, ужо не біялагічную, а сацыяльную, разлічаную на ўзаемную дапамогу і маральную падтрымку сістэму паводзін. А гэтая апошняя цягнула за сабою і адпаведную змену патрэб, каштоўнасцей і нормаў, надаўшы ім выразна новы, сацыяльна-культурны, духоўны характар з яго катэгорыямі маральнага абавязку і строгага абмежавання крайнасцей пачуццёва-жывёльнай, кіпцюраста-клыкастай свабоды. У выніку з пэўнага віду жывёльнага роду гомінідаў і ўзнік Homo sapiens – чалавек разумны, які у сваіх паводзінах пачаў кіравацца ўжо не столькі інстынктамі, колькі розумам. Факт, дарэчы, добра так і не ўсвядомлены, як здаецца, “сарамлівым” матэрыялістам Дарвінам. Разам з ім узнік і такі знаёмы ўжо нам феномен як сама культура і, перш за ўсё, менавіта культура духоўная з яе моцнай маральна-этычнай асновай.

Аднак, з-за адносна імклівага па сваіх тэмпах працэсу змяненняў агульнапрыроднага асяроддзя ледніковай эпохі, поўнай замены ў чалавеку і жывёльнай сістэмы паводзін на сістэму сацыяльную не адбылося. Адбылася не замена, а толькі своеасаблівая надбудова (ці не з гэтакіх меркаванняў той выраз прыйшоў у галаву і Марксу?) сацыяльнай сістэмы над сістэмай жывёльна-інстыктыўнай, у якой апошняя з яе інстынктамі захавання індывіда і віду ў аснове сваёй захавалася і стала выконваць ролю глыбіннага яе базісу, у пэўнай ступені фактычна супрацьпастаўленага сваёй надбудове. Гэтая сацыяльная надбудова не была арганічным працягам таго базісу, а для існавання і эфектыўнага функцыянавання вымушана была нават у пэўнай

ступені блакаваць некаторыя віды дзейнасці сістэмы жывёльнай, як, напрыклад, тую ж бязлітасную барацьбу за ежу як аснову індывідуальнага існавання і змаганне за самку -- аснову рода, што у свой час адзначаў яшчэ фізіёлаг Ананьеў Б.Г. Адсюль менавіта і паходзіць тое, што ў рэлігійных запаветах замест, здавалася б, звычайных, пазітыўнага тыпу цвёрдых рэкамендацый, як чалавеку трэба жыць, бачым чамусьці рэзка адмоўны (з грознай часціцай «не»!), загадна-забаронны характар асноўных прынцыпаў чалавечых паводзін, так дакладна выяўлены амаль ва ўсіх рэлігіях і закладзеных у аснову ўсяе чалавечай духоўнай культуры. **Не** забі, **не** пралюбадзейнічай, **не** крадзі, **не** падманвай і г. д. Што гэта значыць, як не адваротнага тыпу, адмоўныя патрабаванні: не жыві вось так, як жыў ты некалі, і не паводзь сябе падобна жывёліне!

Адсюль і раздвоенасць самога чалавека, што знаходзіцца ў аснове агульнай яго супярэчлівасці ў адносінах паміж біялагічным і сацыяльным, целам і душой, пачуццёвасцю і розумам, жаданнем і абавязкам, асабістым і грамадскім, падсвядомасцю і свядомасцю і г. д. Тое, што і разумеў ужо даўно вялікі Арыстотэль, справядліва сцвярджаючы, што чалавек ёсць ζωον πολιτικον - жывёла грамадская, і робячы з гэтага адпаведныя высновы. Тое ж меў на ўвазе пазней і апостал Павел, калі пісаў сваё пасланне да рымлянаў, што ў целе сваім ён адчувае іншы закон, чым у розуме сваім, і таму лічыць сябе нявольнікам гэтага грахоўнага закона[19]. Чалавек увогуле ў гэтым сэнсе нагадвае цыркавога артыста, што ідзе па дроце. Падзенне ў бок толькі ідэальнага прывядзе да фізічнай яго смерці, падзенне ж у бок супрацьлеглы, у бок толькі матэрыяльнага – зноў да пагібелі, але ўжо да пагібелі духоўнай як вяртання ізноў у жывёльны стан. Таму для нас надзвычай важная, хоць і цяжка дасягальная, але ж - гармонія душы і цела, ідэальнага і матэрыяльнага. Гармонія, што і ляжыць у аснове таго, што філосафы павінны называць і называюць рэальным быццём.

Гэтая раздвоенасць чалавека лягла ў аснову і створанай ім культуры, якая і да нашага часу распадаецца на ўзаемна супрацьпастаўленыя сабе духоўную і матэрыяльную часткі культуры. І толькі культура мастацкая заўсёды пакутліва імкнулася і імкнецца сабой іх аб'яднаць (тое імкненне выразна выступае, напрыклад, у эстэтыцы, праяўляючыся ў яе вечных пошуках прыгажосці як гармоніі духа і цела, зместу і формы) і ў дзіўнай на першы погляд амаль што немагчымасці дасягнуць цалкам такога аб'яднання. Таго, што некалі Гётэ так лаканічна і так дакладна выразіў ужо вядомымі нам пакутліва-страснымі словамі свайго Фаўста: verweile doch, du bist

[19] Біблія. Пасланне св. апостала Паўла да рымлянаў. 7, 23.

so schoen[20]. Пра тую раздвоенасць, якую як грахоўную сутнасць чалавека, ва ўсе часы пастаянна згадвалі ўсе рэлігіі, філасофіі і паэзіі свету. Менавіта яна ж ляжала і ляжыць і ў аснове знакамітай дыялектыкі, што таксама прысутнічала так ці гэтак ва ўсіх філасофіях ва ўсе часы, чаго не ведаюць, на жаль, некаторыя нашы не вельмі пісьменныя рэфарматары і прагрэсісты, топчучы сёння дыялектыку, згодна колішняму выразу, таксама, як дохлага сабаку, і па-ранейшаму знаходзячыся ў пракруставым ложку логікі тыпу «або – або», вядомай з часоў таго ж Арыстотэля як логіка фармальная і трактаваная сёння як уласцівая не столькі чалавечаму розуму, колькі жывёльнай пачуццёвасці.

Гэта якраз і праявілася ў тым, што так цяжка дасягалася і дасягаецца цяпер раўнавага не толькі ў мастацтве як гармонія духа і цела, розуму і пачуцця, зместу і формы, -- як менавіта прыгажосць, але і ў палітычным аспекце сацыяльнага жыцця ўвогуле. Гэта перш за ўсё бачыцца на прыкладзе дэмакратыі як гармоніі ўзаемаадносін паміж грамадствам і асобай, дзяржавай і грамадзянінам, неабходнасцю і свабодай. Дэмакратыя, як вядома, таксама дасягалася і дасягаецца ў гісторыі чалавецтва, пачынаючы ўжо з антычных часоў, са складанымі і пакутлівымі цяжкасцямі. Ідэалам яе, згодна зноў-такі Гегелю, была свабода як усвядомленая неабходнасць, г. зн., як дыялектычна супярэчлівае адзінства пачуццёвасці і розуму, жывёльнасці і сацыяльнасці, асабістасці і грамадства (азначэнне, з якога многія і расійскія і нашы беларускія невукі-прагрэсісты дазваляюць сабе смяяцца, не бачачы, да якога хаатычнага абсурду аказалася даведзенай, напрыклад, няшчасная Расія з яе такой некалі вялікай культурай і яе сённяшнім жывёльна-аднабокім разуменнем свабоды!). Супярэчлівасць, спароджаная няўстойлівым станам усёй прыроды антрапагеннага ледніковага перыяду, сама была надзвычай вострай. У гэтым якраз і складалася ўся праблема, і Кант, напрыклад, лічыў тую праблему ўвогуле невырашальнай, адносячы яе да разраду антыномій. Усё гэта можна выразна назіраць, напрыклад, і ў сучасным грамадстве, і асабліва ў грамадстве і культуры расійскіх, дзе такія ваганні і кіданні ў крайнасці («коль рубнуть, так уж сплеча») можна бачыць амаль што на кожным кроку. І ў палітыцы, і ў эканоміцы і ў грамадскім жыцці ў цэлым, уключаючы і самую агульную і шырокую каштоўнасную катэгорыю шчасця ўвогуле, якая, як і прыгажосць, таксама грунтуецца на гармоніі духа і цела, абавязку і жадання, сацыяльнасці і індывідуалізму, і якая таксама, калі і дасягаецца, то з надзвычай вялікімі цяжкасцямі[21].

---

20 Спыніся, ты такое прыгожае.

21 Гл., напрыклад,: Tatarkiewicz W. O szczesciu. Warszawa, 1962.

Тая ж унутраная раздвоенасць з'явілася прычынай і азначанай няўстойлівасці працэсу гістарычнага развіцця як самога чалавека, так і створанай ім культуры ў цэлым. А ў выніку азначанай няўстойлівасці ўзнікалі і вышэйпамянёныя асцыляцыі-ваганні гэтага працэсу, будучы спароджанымі ўнутраным напружаннем паміж структурай і элементамі сістэмы чалавечага грамадства як сістэмы, вельмі - у эшбіевым сэнсе - вялікай. Напружаннем, узніклым у выніку такой цяжкасці дасягання гарманічнага адзінства паміж сацыяльнасцю і жывёльнасцю, што прыводзіла да станаў таталітарызму, анархіі, і, у сваю чаргу, узнікала з-за несупадзення паміж прамымі і адваротнымі сувязямі ў гэтай сістэме, якая мела з прычыны сваёй шматузроўневай іерархічнасці вельмі складаны характар. Менавіта з гэтай прычыны прамыя сувязі як уздзеянні вышэйшых сацыяльных структур цераз ніжэйшыя падструктуры на свае матэрыяльна-біялагічныя элементы дзейнічалі не адразу. Каб атрымаць тыя вынікі, яны павінны былі накопліавацца, перш чым яны дасягалі свайго элементнага біялагічнага ўзроўня (перыяд такога накоплівання У.Р. Эшбі і называў мёртвым часам). А адтуль у адказ па лініі адваротнай сувязі пачыналася ўздзеянне ўжо матэрыяльна-біялагічных элементаў на ідэальна-сацыяльныя структуры. І зноў з пэўным спазненнем па прычыне такога ж накоплівання на прамежкавых элементна-структурных узроўнях. Пікі стымулаў і вынікаў у працэсе такога ўзаемадзеяння не супадалі ў часе, і ўзнікала тое самае вінераўскае рысканне сістэмы ў выглядзе ўжо нам знаёмай сінусоіды. Рысканне, якое і лягло ў аснову цыклічнай канцэпцыі працэсу сацыякультурнага развіцця і ў Віка, і ў Гегеля, і ў Данілеўскага, і ў Ляонцьева, і ў Шпенглера, і ў Тойнбі, і ў Сарокіна. Канцэпцыя, згодна якой, напрыклад, у Сарокіна на ідэяцыянальнай фазе пад'ёму культуры (паводле Шпенглера, вясна) духоўная субкультура пераважае над субкультурай матэрыяльнай, на інтэгральнай фазе росквіту (паводле Шпенглера, лета) – абедзьве субкультуры выступаюць у гарманічным адзінстве, на сенсорнай фазе ўпадку (восень у Шпенглера) пераважае ўжо матэрыяльная субкультура над духоўнай, і, ўрэшце, апошняя фаза поўнага распаду адпавядае ў Шпенглера зіме, а ў Сарокіна, як здаецца, і ўвогуле не мае назвы. Гэта сапраўды была хоць і вельмі спрошчаная, але ў патэнцыі матэматычна дакладная мадэль сацыякультурнага працэсу і той самай яго цыклічнасці. Мадэль, з якой, дарэчы, многія з пералічаных навукоўцаў, што самі былі ваяўнічымі сынамі сенсорнай фазы – эмпірыкамі, ніяк бы, акрамя, можа, "схематыка" Гегеля, не пагадзіліся б. Аднак, на прыкладзе гэтай мадэлі можна і далей працягваць зноў дэдуктыўныя разважанні накшталт тых, што рабіліся некалі ў нас на падмурку кібернетыкі і агульнай тэорыі сістэм адносна не толькі мастацтва, але і культуры ўвогуле[22], што ўжо былі часткова зроблены ў

[22] Крюковский Н.И. Кибернетика и законы красоты. Минск, 1977.

адным нашым артыкуле[23] і якія, спадзяемся, будуць працягнуты і ўжо з удзелам прафесійных матэматыкаў у далейшым.

Тут жа нагадаем шаноўнаму чытачу пра ісцінны сэнс выразаў “лагічная і матэматычная мадэль”, сэнс, які прыняты ў нашай філасофіі быцця ў дыялектыка-супярэчлівым яго адзінстве[24] і якім мы тут карысталіся з самага пачатку. Гэта тым болей неабходна, што сам тэрмін “мадэль” і ў спецыяльна тэрміналагічнай сваёй функцыі мае некалькі значэнняў, якія небяспечна тут блытаць. Самае блізкае да нашага кантэксту, згодна тлумачальным слоўнікам, – гэта “ўзнаўленне або схема чаго-небудзь, звычайна ў паменьшаным выглядзе”. І вось тут часцей за ўсё і мае часам месца азначаная блытаніна. Пад уплывам ці побытавага словаўжывання, ці колішняга марксісцка-ленінскага, а то і проста “сарамлівага” матэрыялізму, і цяпер яшчэ характэрнага для традыцыйнай навукі, слова “мадэль” трактуецца менавіта як нейкая схема. Як нейкая ўсяго толькі дапаможная ілюстрацыя (ды ў паменьшаным яшчэ выглядзе!) да асноўнага, важнага тэксту, выказанага словамі, чаму і значнасць такой схемы ўспрымалася як штосьці другараднае і не важнае. Словы “схема” і “схематызм” лічыліся часам нават чымсьці падобным да лаянкі (нават такі навуковец, як Сарокін, дазваляў сабе некалі папракаць у схематызме самога Гегеля!).

Аднак, у дакладных навуках лагічныя і, тым больш, матэматычныя мадэлі, ці, як іх яшчэ там называюць (і зноў не вельмі з філасофскага пункту гледжання дакладна), матэматычны фармалізм, формулы, уяўляюць сабой нават нешта больш важнае, чым словы. І калі раней у той жа фізіцы, напрыклад, формуламі выражаліся толькі дакладныя, у вузкім сэнсе слова, функцыянальныя залежнасці, дык сёння і ў фізіцы шырока ўжываецца матэматыка імавернасцей, якая апісвае залежнасці карэляцыйныя, г. зн., прыблізныя, верагодныя.Тым не менш, і тое не перашкаджае быць фізіцы навукай дакладнай. Зрэшты, слова “апісвае” таксама сюды не зусім падыходзіць, бо і ў ім адчуваецца ўплыў марксісцка-ленінскай “теории отражения материального мира”, згодна з якой формулы толькі адлюстроўваюць знешні свет (Ленін нават некалі ўсур’ёз наракаў на сучасную фізіку за тое, што ў ёй “материя исчезла, остались одни только формулы”). Формулы, як і, тым болей, схемы, хутчэй,

---

[23] Як, напрыклад, выкарыстанне паняццяў першай і другой вытворнай з матэматычнага аналізу для матэматычнага падтрымання каштоўнаснай ацэнкі той ці іншай эпохі сацыяльнакультурнай гісторыі (гл.: Крукоўскі М.І. Тэарэтычная культуралогія: на колькі яна можа быць дакладнай навукай? // Веснік Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры і мастацтва, № 9, 2008, ст. 10).

[24] Сціплую спробу даць нарыс гэтай філасофіі гл. у нашай манаграфіі “Бляск і трагедыя ідэалу,” Мінск, 2004), ст. 70-92.

не апісваюць, а *выражаюць* інфармацыю, якая мае не толькі суб'ектыўны, але і аб'ектыўны характар[25] (гэта ў дыялектычным матэрыялізме інфармацыя як адлюстраванне матэрыі мела толькі суб'ектыўны характар). Яны выражаюць аб'ектыўную рэчаіснасць і таму такую важную ролю не толькі ў навуцы, але і ў практыцы, адыгрывае матэматычны аналіз і аналітычная геаметрыя.

Таму цыклічны характар развіцця сацыякультурнага працэсу і менавіта, няхай мне даруецца такі няўклюдны сваёй таўталагічнасцю тэрмін, сінусоідападобнае яго выражэнне, маюць не толькі пасіўна ілюстрацыйны, але і актыўна творчы характар у лагічнай, а ў перспектыве і ў матэматычнай, як ужо было часткова паказана,[26] распрацоўцы гэтай найважнейшай праблемы культуралогіі і ў асаблівасці культуралогіі тэарэтычнай.

**Mikola Krukouski: The cyclical character of the socio-cultural development of society and its causes in terms of theoretical culturology**

The issues of cyclical culture development are regarded. The author proves the thesis by means of many examples from history of culture of different epochs. In particular, under the conditions of a post-industrial society, relations between modern people and artistic sphere are producing an increasingly tangible and negative influence of post-modernistic ideas. In a whole interaction between global cycles and specify of human values is one of actual problems in many different sciences, but especially in theoretical culturology.

## АЛЯКСАНДР ЗГЕРСКІ: ПЛАЦЭБА ДЛЯ БЕЛАРУСАЎ

*У артыкуле робіцца чарговая спроба асэнсавання сучаснай беларускай сітуацыі. Абапіраючыся на сцверджанне Бэныдыкта Андэрсана, выбітнога даследчыка нацыятворчых працэсаў, пра тое, што «Быць нацыяй – гэта, па сутнасці, самая ўніверсальная легітымная каштоўнасць у палітычным жыцці нашага часу",*

---

[25] Крукоўскі М.І. Бляск і трагедыя ідэалу. Мінск, 2004, ст. 95, 162 і інш.

[26] Гл.: 22.

*ставіцца пад пытанне правамернасць песымістычных высноў пра нежыццяздольнасць беларускай нацыянальнай супольнасці. Даводзіцца пра неабходнасць і магчымасць змянення ў лепшы бок становішча з гістарычным і нацыянальна-культурным выхаваннем грамадзян Беларусі, выхаваннем, якое сучаснае кіраўніцтва краіны спрабуе ўціснуць у свае аўтарытарныя схемы разумення.*

Пасажырскі цягнік Магілёў-Мінск, вагон нумар пяць, месца 37. Бягу, на хаду чытаю неабходныя для пасажыра звесткі, не паспяваю, за некалькі вагонаў да свайго з цяжкім заплечнікам саджуся ў цягнік і далей прабіраюся на сваё месца па вузкім праходзе. Звычайны беларускі цягнік, сядзячыя месцы, ехаць некалькі гадзінаў, па дарозе ўключаць якое кіно - мабыць не засумую.

Пакуль правадніца збірала білеты і ўладкоўвала некалькіх занадта заклапочаных кліентаў у вагоне вялося радыёвяшчанне, у эфіры гучала адна з беларускіх FM-станцый. Музыка – брутальная расейскамоўная папса, між кампазыцыямі вядучыя адным жаночым і двума мужчынскімі галасамі спрабавалі жартаваць на тэму сэксу, атрымлівалася дрэнна, нават жудасна, пасажыры рабілі выгляд, што не чуюць гэтых вычварэнскіх спробаў нарадзіць лёгкі, жартаўлівы настрой, стараліся не сутыкацца позіркамі, каб не прыйшлося сарамліва чырванець адзін перад другім, маладая маці з дзіцём, іх месцы былі перад маім, падчас самай брыдкай часткі дыялогу вядучых узяла малое на рукі і пачала паказваць птушачак, што лёталі за вакном над перонам.

Адзін мужчына, які знаходзіўся ў супрацьлеглым канцы вагона з свайго месца, мабыць, зрабіў заўвагу правадніцы наконт выбару радыёстанцыі, і, напэўна, не дачакаўшыся рэакцыі, сам падыйшоў к правадніцкаму штабу-купэ. Размаўляючы па-беларуску, ён запатрабаваў кнігу скаргаў. Я не ведаю ці пакінуў ён там свой запіс, але чуў як ён даволі доўга, апелюючы да разумення і добрай волі, даводзіў пра немагчымасць праслухоўвання такіх праграм у вагоне, дзе едуць нармальныя людзі і галоўнае дзеці, пра засілле нізкаякаснага расійскага блатнога шансона ў FM-эфіры, і г. д. Так ці інакш, а радыёстанцыя была адключана і ў хуткім часе нам была прапанавана мастацкая стужка.

Маё месца знаходзілася ў пачатку вагона па праваму раду, насупраць, з левага боку ад мяне, сядзелі яшчэ некалькі чалавек. Адна з іх, жанчына сталага ўзросту, падчас маналогу невядомага беларускамоўнага спадарожніка не выказвала ніякай рэакцыі, але калі той заняў сваё месца ў другім канцы вагона, пачала з абурэннем выказваць сваё стаўленне да роднай мовы: "Не, я таксама ў школе вучыла беларускую, добра яе ведаю, але ж беларуская мова – мова змяшаная з суседніх, не самастойная". Аперыруючы гэтым аргумэнтам, яна некалькі разоў за час паездкі голасна, тонам, у

якім было чуваць незадаволеннасць і пагарду да прадмэту абмеркавання, звярталася не то да сваёй суседкі, не то да праваднiцы. А за дваццаць-трыццаць хвілінаў да прыбыцця з дынамікаў нас зноў пачалі частаваць прыкладна такога ж самага гатунку музыкай, якая грала пры адпраўленні. Прысутныя маўчалі, маўчаў і я. Вагон нумар пяць рухаўся згодна раскладу. Я ўжо было падумаў пра поўнаю перамогу ў маўклівай прасторы нашага вагона песні невядомага мне расійскага выканаўцы, у якой маладзён апатычным, аднак поўным упэўненасці голасам спяваў: “Алёна даст!”. Але перад самім прыбыццём злева ад мяне, зусім побач з той кабетай, у хлопца, які таксама як і іншыя ніякім чынам не праяўляў цікавасці да моўнага пытання, мабільны тэлефон задзірліва зароў песняй “Грай” С. Міхалка. Тое ўразіла відаць не толькі мяне, бо адразу некалькі галоў закруціліся ў пошуках вытоку мелодыі. Вось у такім статычным вагоне давялося аднойчы дабірацца да Менску.

Так, сапраўды адзінства ў разуменні нацыянальных беларускіх праблем няма як у шэраговых грамадзян, так і ў беларускай інтэлегенцыі, інтэлектуальнай эліты. Варта адзначыць, што некаторыя вострыя нацыянальныя пытанні дасюль застаюцца не вырашанымі. Але ці можна казаць пра немагчымаць дабудаваць наш агульны беларускі дом, ці так ужо шмат чаго мы згубілі, што не зможам ужо людзьмі звацца? Скептыкі кажуць, што Беларусь страціла свой шанец і ніколі ўжо не зойме свой пачэсны пасаг між народамі. Пры гэтым часта абапіраюцца на працу Бэнэдыкта Андэрсана “Уяўныя супольнасці”.

У ёй аўтар пераканаўча даказвае, што нацыі паўсталі ў мадэрновы перыяд пачынаючы з канца васямнаццатага стагодзя, і з’яўляюцца ў значнай ступені штучнымі і выпадковымі ўтварэннімі. Але калі прыкласці асноўныя палажэнні і ідэі, якімі карыстаецца і да якіх прыходзіць Андэрсан у сваім грунтоўным аналізе, да нацыянальнай сітуацыі ў Беларусі, то атрымаецца не такая ўжо і фатальная перспектыва.

Па першае, гэта сама выснова даследчыка пра актуальнасць нацыяў у сучасным свеце, а яна наступная: “Рэальнасць цалкам ясная: “канец эпохі нацыяналізму “, які так доўга прадракалі, яшчэ вельмі і вельмі далёка. Быць нацыяй – гэта, па сутнасці, самая ўніверсальная легітымная каштоўнасць у палітычным жыцці нашага часу” . Такім чынам, негледзячы на некаторыя прагнозы калегаў Андэрсана па канструктывісцкаму цэху, маўляў, нацыі знікнуць саступіўшы месца сацыяльным класам, прагнозы гэтыя, прынамсі па Андэрсану, можна лічыць памылковымі.

І сапраўды, калі нацыям наканавана існаваць яшчэ вельмі доўга, то класы ўжо зараз перажываюць значныя трансфармацыі. Напрыклад, клас пралетарыяту ў эканамічна развітых краінах значна скараціўся і змяніўся якасна, яго ў некалькі разоў перавышаюць колькасць тых, хто заняты ў сферы паслуг і адукацыі. Знікае

катэгарычная падзеленасць на класы, адзін і той жа чалавек у наш час можа быць і фермерам, і навукоўцам, і журналістам.

Па другое, нацыі па Андэрсану з'яўляюцца ўяўнымі супольнасцямі, у тым сэнсе, што нацыі гэта "ўяўная палітычная супольнасць, і ўяўлена яна як нешта непазбежна абмежаванае, але ў той жа час суверэннае….На самай справе, усе супольнасці буйней першабытных вёсак, аб'яднаных кантактам твар-да-твару (а, можа быць, нават і яны), - уяўныя…І нарэшце, яна ўяўная як супольнасць, паколькі незалежная ад фактычнай няроўнасці і эксплуатацыі, якія ў кожнай нацыі могуць існаваць, нацыя заўсёды разумеецца як глыбокае, гарызантальнае таварыства". Такім чынам, асноўны крытэрый, па якім можна рабіць выснову аб існаванні нацыі - самаўсведамленне сябе нацыяй – у нас беларусаў ёсць і на дадзены момант не выклікае сумневу. З часу правядзення першага перапісу, канец 19 стагоддзя, і па сённяшні дзень прадстаўнікі тытульнай нацыі лічаць сябе менавіта беларусамі. Спадарожныя прычыны, якія аказваюць уплыў на нацыястваральныя працэсы ў нас таксама маюцца, напрыклад, гарызантальныя міграцыі функцыянераў, ці "імгненна пазнавальны і паўсюль заўважаны, лагатып карты", які "глыбока ўкараняўся ў масавае ўяўленне", і іншыя.

Ва "Уяўных супольнасцях" аўтар разглядае адзін важны механізм уздзеяння на нацыянальную свядомасць з мэтаю яе кансалідацыі, гаворка ідзе аб "сістэматычнай гістарыяграфічнай кампаніі, разгорнутай дзяржавай галоўным чынам праз дзяржаўную сістэму адукацыі", задачай гэтай кампаніі быў напамін кожнаму маладому чалавеку "аб серыі старажытных масавых забойстваў, якія захоўваюцца ў свядомасці як "радавая гісторыя". І на прыкладзе трагічных падзей Варфаламееўскай ночы даводзіцца пра немалую ступень прымусу ў фармаванні нацыянальнай свядомасці французаў. "Прымушэнне "ўжо забыцца" тыя трагедыі, у бясконцым "напамінку" аб якіх чалавек мае патрэбу, аказваецца тыповым механізмам найпозняга канструявання нацыянальных генеалогіяў".

Але калі пайсці ў адваротным кірунку андэрсанаўскага разгляду, ды задацца пытаннем: што б атрымалася калі б французы не забыліся пра тыя даўнія падзеі? Напэўна паўстала б дзве альбо некалькі варагуючых дзяржаў, і памяць пра ахвяры канфесыйных сутычак і войнаў толькі падпітвала б новыя хвалі фізічнага гвалту. Таму відавочна з пункту гледжання сучаснай французкай нацыі, якая здзейснілася, такое "забыванне" дало свой плён. Больш за тое тут трэба адзначыць і немалую ступень добраахвотнасці французаў уз'яднацца ў адной рознаканфесыйнай дзяржаве, бо безумоўна ў іх гісторыі былі і іншыя варыянты.

Неабходнасць забывання, індывідамі і народамі, выдатна паказаў, у свой час яшчэ Ф. Ніцшэ: "Весялосць, спакойнае сумленне, радасная дзейнасць, давер да будучыні -

усё гэта залежыць як у асобнага чалавека, так і ў народа, ад таго, ці ўмее ён аднолькава добра своечасова забываць, як і своечасова ўспамінаць, ад здольнасці здаровага інстынкту вызначаць, калі трэба адчуваць гістарычна і калі - негістарычна… Гістарычнае і негістарычнае аднолькава неабходныя для здароўя асобнага чалавека, народа і культуры.”

У сваёй працы “Аб карысці і шкодзе гісторыі для жыцця”, з якой узяты вышэй прыведзены ўрывак, Ніцше дзяліў гісторыю на тры роды - манументальны, антыкварны і крытычны. Для разгляду нашай беларускай сітуацыі будзе цікава скарыстацца дадзенай формай. Коратка пра тое, што кожны з іх уяўляе. Манументальнай гісторыі прызначана папулярызатарская і выхаваўчыя роля, на гераічных прыкладах выбітных асобаў, на захапленні велічнымі падзеямі, яна выхоўвае наступныя пакаленні. Антыкварная гісторыя павінна стаяць на варце захавання гістарычнай спадчыны. Крытычная гісторыя пераглядае і пераасэнсоўвае гістарычныя падзеі, але робіцца гэта толькі дзеля таго, каб супольнасць мела магчымасць жыць далей, то бок, адкідваюцца ранейшыя нежыццядзейныя высновы і ўводзяцца новыя з пункту гледжання нацыянальнага здароўя. І кожны з гэтых трох родаў гісторыі адпавядае сваёй уласнай функцыі і садзейнічае жыццю толькі калі прымяняецца да месца і да часу. Інакш атрымоўваецца адваротнае – гіпастазаванне і павелічэнне ролі аднаго роду за кошт іншых прывядзе толькі да адмоўных вынікаў.

Таму, хто хоць крыху ведае становішча гістарычнага выхавання ў сучасным беларускім грамадстве, цалкам зразумела, што ў нас тры вышэйзгаданыя роды гісторыі і блізка не знаходзяцца ў гарманічным адзінстве. У цяперашняй афіцыйнай манументальнай гісторыі пераважаюць каштоўнасныя погляды і міфы савецкага перыяду, памяць і адлюстраванне ролі большыні выбітных гістарычных асоб і падзей падменены альбо выцеснены. Стаўленне да антыкварнай гісторыі яскра праяўляюцца ў адносінах да гістарычных помнікаў і артэфактаў важных для беларускай нацыянальнай культуры, гэтыя адносіны вельмі часта набываюць знішчальны характар. А вось крытычны накірунак у нас яўна пераважае і ўяўляе небяспеку для нацыі, прычым, пануе яго штучная і антыбеларуская версія.

Пачынаючы ад шкоднага ўздзеяння на дзяржаўным узроўне, калі пад дзейсны рэжым перапісваецца гісторыя, калі вядзецца пераслед выкладчыкаў за выданне праўдзівай гістарычнай літаратуры, нязручнай сучаснаму рэжыму, альбо калі праплочанныя рэжымныя ідэолагі зневажаюць выбітныя постаці нашай гісторыі. Далей, цераз хаўтурнае лямантаванне над “няжыццяздольнасцю” нашай гістарычнай спадчыны, расчараванымі былымі “адраджэнцамі”. І скончваючы дэструктыўнымі спрэчкамі ў інтэрнэце, дэструктыўнымі ў сэнсе значнага ўплыву ў сеціве тролінга і беларусафобскіх элементаў, і адмоўчваннем збітых усім гэтым беларусаў, якія маглі б нешта супрацьпаставіць, - дык вось, гледзячы на ўсё гэта становіцца цалкам

**Implications on Belarus**

The EU – Ukraine relationship largely affects Belarus for many reasons. The signing of the AA may not result in significant political changes in Belarus, but it will affect the Belarusian economy and Belarus – EU political relations. There already have been three Belarusian neighboring countries that have joined the EU, leaving Ukraine and Russia to stand-alone. It is well known that Russia will not join the EU. If Ukraine signs the AA, it will mean that Ukraine's relations will be much stronger with the EU than with Russia. Belarus has long depended on Russia, but it had a choice of relations with Ukraine as well. Leaving Russia as the only post-Soviet partner will increase Belarusian dependency on Russia, giving leverage to it.

Secondly, the EU has already attempted to exert influence on Belarus through Ukraine. Ones the AA is signed, it will be much easier for the EU to indirectly affect Belarus through Ukraine, since Ukraine will be pressured to take the EU's side. It is important to note that it will not be easy to manipulate Belarus politically, however economic sanctions, trade and agreements will become more difficult to conclude with Ukraine due to DCFTA. This will lead to a stronger divide between the Customs Union and the EU-oriented countries.

Thirdly, Belarus will become an even more important bridge between the EU and Russia. Since it will be the only country left with no intensions on becoming a member state, it will increase its importance in both the EU and Russia's opinion. Russia will want to keep Belarus at close relations, because it will understand how easy for the EU it will be to affect Belarus through different sectoral channels.

Lastly, the overall political relations between Ukraine and Belarus will exponentially decrease. Belarus will be forced to express its clear stand on the EU and Russia. Of course Belarus will continue to strengthen its relations with Russia, due to its isolation by the EU's countries and EU-oriented countries. At the same time, it will continue to improve its sectoral ties with the EU, using the same technique as Ukraine did. Belarus will leave out the most important decisions such as human rights violations to the last minute and out of the discussions.

In conclusion, this article has analyzed the implications of the implementation of the Association Agreement on Ukraine and Belarus. According to the previous EU-Ukraine relationship it is clear that Ukraine wanted and worked towards becoming a closer partner with the EU. The division within the Ukrainian public posed some backward activity in relations but has not stopped the negotiations. While the draft of the Association Agreement itself is unavailable to the public, it is clear it is focused on convergence of all technical spheres or according to the EU norms and values. Due to a number of important obstacles

it is possible that the AA may not be ratified. Obstacles are visible not only from Ukraine, but from the EU as well. While Ukraine wants to be integrated with the EU, the Ukrainian government does not want to reform areas that may pose a threat to integration with the EU, and it is clearly visible in the recent protests. At the same time, Belarus will have large implications if Ukraine does sign the AA, as it will be the only country left in Eastern Europe with no intensions becoming a member state.

**Bibliography**

"Почему выпустили Луценко? Причины и Последствия", Главком, 8 April 2013, available at http://glavcom.ua/articles/10883.html .

Connolly, Richard and Nathaniel Copsey. "The Great Slump of 2008-9 and Ukraine's

Integration with the European Union", *Journal of Communist Studies and Transition Politics*, Vol. 27 (3-4), 2011:541-565.

Council of the European Union. "Council Conclusions on Ukraine", Brussels, 10 December 2012.

European Commission. "EU – Ukraine Association Agenda: To Prepare and Facilitate the Implementation of the Association Agreement", European Commission External Relations, 23 November 2009.

European Commission. "EU – Ukraine Association Agreement 'Guide to the Association

Agreement'", European Union External Action.

European Commission. "EU – Ukraine Association Agreement 'What Does the Agreement Offer'", European union External Action.

Hellyer, Mark. "A Basic Guide Explaining the Ukraine EU Free Trade Agreement", CTA

Economic & Export Analysts LTD, 2009.

Kropatcheva, Elena. "Ukraine's Foreign Policy Choices after the 2010 Presidential Election", *Journal of Communist Studies and Transition Politics*, Vol. 27 (3-4), 2011:520-540.

Lyubashenko, Igor. "The Likelihood of an EU Association Agreement with Ukraine in 2013", The Polish Institute of International Affairs, Vol.16 (469), 15 February 2013.

Stegniy, Oleksandr. “Ukraine and the Eastern Partnership: ‘Lost in Translation’?”, *Journal of Communist Studies and Transition Politics*, Vol.27 (1), 2011:50-72.

Tiede, Wolfgang and Oscar Rennalls. “Recent Developments in the Ukrainian Judicial System and the Impact of International and European Law”, *East European Politics and Societies*, Vol.26 (1), 2012:93-114.

## ПЁТРА МУРЗЁНАК: БЕЛАРУСКАСЬЦЬ І МЕНТАЛЬНАСЬЦЬ ЦЫВІЛІЗАВАНЫХ КРАІН

Азначэньне "беларускасьць" на нашу думку цалкам адпавядае паняцьцям беларускай ментальнасьці ці ментальнасьці народа і будзе ў роўнай ступені ўжывацца ў артыкуле. Паколькі ментальнасьць народа нельга выхаваць за адно ці два пакаленьні, то можна меркаваць, што ментальнасьць людзей, насяляўшых тэрыторыю сучаснай Беларусі, фармавалася ўжо тады, калі не было сфармулявана паняцьце аб саміх беларусах і аб беларускім этнасе. Рэтраспектыўна можна здаецца казаць пра тое, што беларускасьць мае свае генетычныя карані даўжынёй у тысячу гадоў.

Кожны народ ці этнас здольны скласьці ўяўленьне аб сваёй ментальнасьці і ахарактарызаваць яе. Звычайна, калі запытацца, якая ментальнасьць у беларусаў, у галаву прыходзяць пару слоў для яе характарысткі, і ў першую чаргу, памяркоўнасьць, талерантнасьць, пачуцьцё справядлівасьці, падумаўшы яшчэ можна дадаць, міралюбівасьць, згода. Далей узнікаюць пытаньні, а што маецца на ўвазе пад гэтымі словамі: Памяркоўнасьць ці абыякавасьць? Талерантнасьць якая – рэлігійная, расавая і ў якой ступені? Згода з чым – са сьмяротным пакараньнем? Ці дапаўняюць гэтыя характарыстыкі такія маральныя каштоўнасьці як свабода, дэмакратыя, адсутнасьць этнічных і расавых прымхаў, раўнапраўныя адносіны да жанчын? Іншымі словамі - ці адпавядае беларуская ментальнасьць альбо беларускасьць глабальным тэндэнцыям зьмены мышленьня і паводзін чалавецтва ў нашы дні?

Відавочна, што ментальнасьць людзей на Зямлі значна зьмянілася і не толькі таму, што з'явіліся новыя фактары, якія ўплываюць на яе фармаваньне (праблемы экалогіі, адносіны да сексуальных меншасьцяў, дзейнасьць рэлігійных канфесій і іншых транснацыянальных палітычных, эканамічных, культурных і сацыяльных структур), але і таму, што ў многіх цывілізаваных краінах вырасьлі патрабаваньні да выкананьня тых маральных прынцыпаў, пры рэалізацыі якіх у канчатковым выглядзе складаецца новая ментальнасьць чалавецтва. Яшчэ паўсотні год таму назад у ЗША квітнела расавая сегрэгацыя, а сёньня Барак Абама, афроамерыканец, прэзідэнт гэтай краіны; у дзеючы парламент Канады абраны 76 жанчын (25%), тады як у канцы 19 стагоддзя яны не мелі нават права выбіраць. Амаль сто гадоў таму назад Аркадзь Смоліч (1891-1938) пісаў, што "Беларус быў увесь час вельмі прыдатным да ролі грамадзяніна будучыны, калі справядлівасьць запануе між народамі, але быў мала падгатаваны да змаганьня за быт, за жыцьцё, якое йшло вакол яго і яго коштам, але на яго шкоду". Хацелася б думаць, што беларускасьць за апошняе стагоддзе зьмянілася ў лепшы бок таксама.

У якіх умовах развівалася беларускасьць у даўнейшы і нядаўні час? Несумненна, яна істотна зьмянялася на працягу вякоў пад уплывам розных фактараў: пад уплывам рэлігіі – праваслаў'я і каталіцызма, пратэстанцтва і уніяцтва; пад каласальным уплывам культур Польшчы і Расіі (як негатыўным, так і пазітыўным). І нарэшце, беларускасьць развівалася ва ўмовах барацьбы Рыма і Візантыі ці інача Захаду і Усходу, якая ў найбольшай меры прадвызначыла на сёньня няўпэўненную, "памяркоўную" беларускасьць. Бо знаходжаньне на мяжы абяскровіла беларускую нацыю да той ступені, што яе беларускасьць за апошняе стагоддзе пачынала ці магла развівацца толькі ў надзвычайных умовах і абставінах:

- стварэньне Беларускай Народнай Рэспублікі стала магчымым ва ўмовах грамадзянскай вайны, у час калі Мінск быў акупаваны германскімі войскамі;

- беларусізацыя 20-30-х гадоў мінулага стагоддзя праходзіла ў час няўпэненасьці савецкай улады і правядзеньня ёю новай эканамічнай палітыкі;

- элементы аднаўленьня беларускасьці былі заўважны ў Мінску, Слоніме, Баранавічах, іншых гарадах падчас нямецкай акупацыі 1941-1944г.г.;

- стварэньне суверэннай Рэспублікі Беларусь было адным з вынікаў развала Савецкага Саюза;

- хваля Беларускага Адраджэньня 1991-1994 г.г. мела вялікі посьпех ва ўмовах разгубленасьці ўнутраных і зьнешніх праціўнікаў нацыянальнага будаўніцтва.

Вызначэньне беларускай ментальнасьці ў наш час мае адну істотную асаблівасьць – ацэніваць гэтую ментальнасць даводзіцца ў рускамоўных беларусаў. Беларускі народ, як і многія другія народы, фармаваўся ў канцы 19 стагоддзя па моўнаму прызнаку. Паводле Перапісу 2009 г., 83.7% насельніцтва краіны вызначала сябе беларусамі, і здавалася б, што такая вялікая этнічная гамагеннасьць ёсьць добрым грунтам як для ўдасканаленьня беларускасьці, так і для будаўніцтва нацыянальнай дзяржавы. Аднак, нягледзячы на гэта, ідэнтыфікацыя беларусаў як нацыі мае пакуль толькі тэарэтычную перспектыву; у краіне будуецца цывільная рускамоўная дзяржава (*часопіс "Сакавік", №1, с.4,* www.sakavik.net). У Беларусі - беларускамоўная катастрофа: адсутнічае сапраўднае, раўнапраўнае ўжываньне Мовы, што сталася вынікам амаральнай бяздзейнасьці ўладаў, дзейнасьці беларусафобаў, і безумоўна абыякавых адносін насельніцтва Рэспублікі Беларусь да Мовы (нават у вёсках дзеці цяпер размаўляюць на «рускай трасянцы», што азначае згоду бацькоў на такую ненатуральную моўную трансфармацыю). Паўстае парадаксальнае пытаньне аб магчымасьці развіцьця беларускай ментальнасьці або беларускасьці ва ўмовах цяперашняга будаўніцтва цывільнай дзяржавы без Мовы, без важнейшага

кампанента, які якраз і павінен быў бы ў значнай меры прадвызначаць ментальнасьць беларускага народа. Неверагодна, але хочацца спадзявацца, што гэта будзе магчыма ў нейкай пакуль што незразумела якой форме, якую трэба яшчэ выпрацаваць, але не ў форме самападману, інакш прыйдзецца задаваць другое пытаньне – менталітэт якога народа ці насельніцтва будзе выхоўвацца без роднай Мовы. У ідэале добра было б усьведаміць таксама, каб мова, на якой будзе «менталіцца» і ўкараняцца гэта форма-стратэгія, мела корань «беларус».

Нас сёньня цікавіць рэальны стан беларускасьці бо ад правільнай яе ацэнкі будзе залежыць выбар стратэгіі і шляхоў яе выхаваньня. Здавалася б, для развіцьця беларускасьці ёсьць дастатковыя умовы: краіна набыла самастойнасьць і незалежнасьць, існуе значная этнічная і гістарычная база для развіцьця і станаўленьня беларускасьці, пасьля ападаньня Бярлінскай сьцяны адчыніліся дзверы і людзі атрымалі магчымасьць ездзіць па сьвету, за апошнія гады краіна стала багацейшай і прыгажэйшай. Аднак, нягледзячы на адкрытасьць мяжы, Беларусь застаецца закрытай для дыялогу з цывілізаванымі краінамі сьвету па вядомых прычынах. Развіцьцё беларускасьці стрымліваецца састрэлымі стэрэатыпамі, якія складаюць аснову дзяржаўнай ідэалогіі – у першую чаргу гэта ідэі славянскага адзінства (праўда чамусьці не ўсе славянскія краіны-суседзі запрашаюцца ў гэта адзінства), выкарыстаньне кароткатэрміновай гістарычнай памяці, зьвязанай пераважна толькі з другой сусьветнай вайной, працяг палітыкі інтэрнацыяналізма ў адносінах да некаторых краін (Венесуэла, Куба, Сірыя), якая праводзілася яшчэ ў савецкія часы. Пры вызначэньні напрамку развіцьця дзяржавы выкарыстоўваюцца такія прыёмы і маральныя прынцыпы (будаўніцтва “ліній Сталіна”, антыамерыканская і антызаходняя прапаганда), якія ў значнай ступені аддаляюць магчымасьць далучэньня Беларусі да сям'і цывілізаваных народаў, дзе дзейнічаюць іншыя маральныя каштоўнасьці. Можна было б думаць, што беларускасьць, выкаростоўваючы ідэалы хрысьціянства і сапраўднага інтэрнацыяналізму, паступова ішла б да прыняцьця агульнапрынятых маральных каштоўнасьцяў. Аднак, такое адчуваньне, што Беларусь спынілася на стадыі савецкага інтэрнацыяналізму, які быў скіраваны толькі на «сваіх», на сяброў, якіх тады было паўсьвету, а другая палова сьвету, адпаведна, была запоўнена ворагамі; пошукі ворагаў працягваюцца і зараз, калі пазнаёміцца, напрыклад, са зьместам амаль кожнага нумара газеты «Советская Белоруссия».



Так мастак паказаў «статкавую» ментальнасьць (herd-mentality-FAULTS-OF-THE-HUMAN-MIND. Zehra May 5, 2012).

Відавочна, што развіцьцё беларускасьці стрымліваецца і зьнешнімі фактарамі, і ў прыватнасьці, выкліканымі паступовым уцягваньнем краіны ў Еўразійскі Саюз, ідэялагічнай базай для якога з'яўляюцца ідэя многапалярнасьці сьвету і еўразійская ідэалогія. Канчатковай мэтай еўразізма, паводле класічных ды й сучасных еўразістаў, з’яўляецца пакончыць «з культуральнай гегемоніяй Захаду» дэманструючы перавагу Усходу. Такім чынам, на прасторах СНГ, замест кааперацыі з цывілізаванымі краінамі, аднаўляецца як канфрантацыя часоў халоднай вайны, так і імперскае мысленьне, пад якія падпадаюць і памяркоўныя беларусы. У нядаўнім аглядзе мы абгрунтавалі гістарычную прыналежнасьць беларусаў да ўсходнеславянскай, а не да еўразійскай цывілізацыі (*часопіс “Сакавік”, №3, с.40*); з праведзенага там аналіза вынікае, што ментальнасьць людзей, якія належаць да гэтых цывілізацый, будзе таксама адрозніваціца, што магчыма адыграе сваю ролю ў выбару напрамку развіцьця краіны ў будучыні. На сёньня доля грамадзян Беларусі, якія б бачылі сябе ў Еўразійскім ці ў Еўрапейскім Саюзах аднолькавая, каля 37% (*Нікалюк, Радыё “Свабода”, 4 кастрычніка 2013*); маецца дастаткова навуковых

доказаў, якія сьведчаць аб еўрапейскасьці беларусаў і аб іх прыналежнасьці да заходняй цывілізацыі (*Bekus, 2011; Куплевіч, 2013*).

Відавочна, што развіцьцё беларускасьці павінна брацца за аснову пры будаўніцтве нацыянальнай дзяржавы. Аднак будаўніцтва нацыі не з'яўляецца рэальнай дзяржаўнай палітыкай, хаця ў асноўных прынцыпах развіцьця Рэспублікі Беларусь гаворыцца, што «у краіне ажыцьцяўляецца паслядоўны курс па фарміраваньню ідэалогіі беларускай дзяржавы, крышталізацыі беларускай нацыянальнай ідэі». Выглядае так, што нават некаторыя дэкларатыўныя заявы і дзеяньні, якія сталі прыкметнымі ў апошнія гады (заявы аб умацаваньні незалежнасьці краіны, будаўніцтва Плошчы дзяржаўнага сьцяга) робяцца вымушана ў залежнасьці ад абставін і асабліва ад зьменаў у адносінах з Расіяй. Сучасны ўрад Беларусі, большы час эксплуатуючы ўсходні вектар зьнешняй палітыкі, пакідае ў загане развіцьцё беларускасьці і, як след, развіцьцё сваёй нацыі, у выніку чаго адбываецца ўсё большая ассіміляцыя насельніцтва РБ у еўразійскую палітыку і культуру.

У апошні час беларуская дзяржава дэманструе элементы рэлігійнай дыскрымінацыі. Ніхто не аспрэчвае, што Беларусь - краіна пераважна праваслаўная. Аднак відавочна, што праваслаўная царква мае значныя прэферэнцыі: зьвярніце ўвагу на новыя вялізныя храмы, узведзеныя ў Мінску з дапамогай дзяржавы; штосьці не было чуваць, каб такую ж падтрымку мелі каталіцкія ці пратэстанцкія цэрквы. Паводле зьвестак Камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасьцяў РБ да той ці іншай рэлігіі адносілі сябе ў 2010 годзе 58.9% грамадзян, з іх 82.5% былі праваслаўнымі (48% ад агульнай колькасьці насельніцтва), 12% каталікі (7% ад агульнай колькасьці), 4% - іншыя рэлігіі (*Государственный департамент США. Доклад о свободе религии за 2010 год, раздел 1, англ.*). Магчыма выконваючы заказ ці выкарыстоўваючы іншую методыку Інфармацыйна-аналітычны цэнтр пры Адміністрацыі Прэзідэнта РБ на наступны год даў зусім іншыя лічбы, якія на 60% перавышалі дадзеныя Камітэта па агульнай колькасьці вернікаў у краіне, у асноўным за кошт праваслаўных (паводле дадзеных цэнтра ў 2011 годзе 93,5 % грамадзян адносілі сябе да той ці іншай рэлігіі, з іх 81% былі праваслаўнымі (76% ад агульнай колькасьці насельніцтва), 10.5% каталікі (10% ад агульнай колькасьці), 2% - іншыя рэлігіі (іудаізм 1%, пратэстантызм і іслам па 0.5%) (*Сборник материалов социологических исследований за 2011 год. Минск, «Бизнесофсет», 2012, с.44*). У краіне з'явіўся клуб праваслаўных міліцыянераў *("Наша Ніва", 8 кастрычніка 2013).* Цікава, што па прыведзенай інфармацыі, гэтае аб'яднаньне ці клуб створаны ў рамках праграмы супрацоўніцтва паміж Міністэрствам унутраных спраў і Беларускай праваслаўнай царквой, падпісанай яшчэ 10 гадоў таму назад. На многіх урачыстасцьцях (напрыклад, на прыняцьці воінскай прысягі) можна бачыць прысутнасьць святароў, выконваючых царкоўныя абрады. Але сьвятары ці ўсіх канфесій раўнапраўна прадстаўлены на

такіх цырымоніях? А з другога боку, якім чынам улічваюцца рэлігійныя ці атэістычныя пачуцьці грамадзян, якія не адносяць сябе ні да якой рэлігіі, а яны, па дадзеных Камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасьцяў РБ, складаюць істотную долю (41.1%). Відавочна, што канстытуцыйныя правы гэтых грамадзян парушаюцца (*Кастытуцыя РБ:* "Артыкул 4. ... Ідэалогія палітычных партый, рэлігійных або іншых грамадскіх аб'яднанняў, сацыяльных груп не можа ўстанаўлівацца ў якасці абавязковай для грамадзян"). Можна прыводзіць іншыя прыклады наўмыснага ўмяшаньня дзяржавы ў розныя сьферы гуманітарнай дзейнасьці, якія негатыўна ўплываюць на фармаваньне ментальнасьці беларусаў: добра вядомая гісторыя з прыцясненьнямі Саюза палякаў сьведчыць аб этнічнай дыскрымінацыі ў краіне; кіраўніком дзяржавы нярэдка дапускаюцца выказваньні, якія трактуюцца як расісцкія (у адрас габрэяў; у адрас Прэзідэнта ЗША, Барака Абамы).

У выніку, нягледзячы на шмат якія пазітыўныя зьмены, што адбыліся за гады незалежнасьці ў беларускім грамадстве, яго маральнасьць магла бы быць, у адпаведнасьці з законамі эвалюцыі, значна лепшай, калі мець на ўвазе адносіны людзей адзін да аднаго, адносіны да падзей, што адбываюцца ў суседніх краінах і ў цэлым сьвеце, пачуцьцё справядлівасьці і свабоды, рэлігійную талерантнасьць, і г.д. Многія грамадзяне Беларусі, якія маюць заробкі, блізкія да сярэдніх па краіне, жыцьцём задаволены і не дбаюць ні пра мову, ні пра незалежнасьць, ні пра беларускую ідэнтычнасьць, не цікавяцца ўнутранай і зьнешняй палітыкай краіны. У нядаўнім апытаньні, якое праводзіў Незалежны інстытут сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаваньняў 91.5% апытаных беларусаў былі абыякавымі да палітыкі, іх адказы размеркаваліся наступным чынам: маё жыцьцё залежыць ад палітыкі, але я ў ёй ня ўдзельнічаю, таму што гэта бескарысна (23.7%) ці небяспечна (11.1%); маё жыцьцё слаба залежыць ад палітыкі (22.5%); я не цікаўлюся палітыкай (34.2%) (*"Народная Воля", 3 верасьня 2013*). Людзі, з якімі даводзілася размаўляць, у большасьці пазьбягаюць ці баяцца размоваў на гэтыя тэмы бо на самай справе не хочуць ніякіх зьмен у сваім штодзённым жыцьці. Магчымай прычынай такога становішча з'яўляецца і тое, што людзі ў краіне пакутуюць за свае палітычныя погляды. Можна канстатаваць, што пераважная большасьць беларускага насельніцтва, бадай за выключэньнем моладзі, не цікавіцца будучыняй сваёй краіны і сваіх дзяцей.

Гэта "палітычная" абыякавасьць адлюстроўваецца на культуральных кампанентах ментальнасьці. Паводле апытаньня праведзенага Лабараторыяй Новак і Беларускага інстытута стратэгічных даследаваньняў у 2010 годзе *(BelarusDigest, 08-02-2013)*, беларусы не такія ўжо і талерантныя як гэта можа ўяўляцца. У Беларусі няма такой ксенафобіі якая назіраецца ў сталіцы суседняй дзяржавы, але 46% беларусаў лічыць, што трэба абмежаваць прыток замежных працоўных у краіну. Толькі 20% беларусаў

пагадзіліся б пажаніць сваіх дзяцей з прадстаўнікамі другой расы. Гэтыя лічбы вынік толькі тэарэтычных меркаваньняў беларусаў, бо яны зараз пражываюць у амаль абсалютным асяроддзі белага насельніцтва (беларусы – 83.7%, расіяне – 8.3%, палякі – 3.1%, украінцы – 1.7%; разам 96.8%). Складана ўявіць, што вынікі апытаньня былі б лепшымі, калі дапусьціць у рэальнасьці, што прадстаўнікі другіх рас складаюць хаця б 15% ад агульнай колькасьці насельніцтва РБ і жывуць побач.

Амаль тыя ж вынікі беларусы дэманструюць у свай нецярпімасьці да нетрадыцыйных рэлігій, да гомасексуалаў. Хаця ў Беларусі няма бачных супярэчлівых адносін паміж асноўнымі канфесіямі, праваслаўнай і каталіцкай, аднак у той жа час 57% беларусаў выступаюць за абмежаваньне распаўсюду такіх рэлігій як Харе Крышна ці Буддзізм. У прынцыпе, непрыймальнасьць беларусамі «незнаёмых» рэлігійных напрамкаў (не беручы пад увагу экстрэмальныя) не адпавядае Дэкларацыі правоў чалавека. Больш за 60% беларусаў падтрымліваюць крымінальны перасьлед гомосексуалаў і толькі 6% згодны на тое каб геі мелі тыя ж самыя правы, што і астатнія грамадзяне краіны. І нарэшце сумна вядомыя вынікі рэферэндума 1996 г. пра адмену смяротнай кары – 80.44% беларускага насельніцтва сказалі тады “не” яе адмене. Нерэпрэзэнтатыўнае апытаньне на Радыё “Свабода” *(кастрычнік 2013)*, якое мае больш падрыхтаваную групу слухачоў (маладую, адукаванаю), суцяшае толькі крыху – непераканаўчыя 56% за адмену смяротнага пакараньня. Улічваючы прыведзеныя факты і тое, што ментальнасьць нацыі складаецца з ментальнасьці індывідуумаў, можна адзначыць, што ментальнасьць беларускага народа і кіраўніцтва дзяржавы ў значнай ступені супадаюць па многіх кампанентах.

А што ж мы маем у пазітыве пры вызначэньні беларускасьці? Цярплівасьць! Так, гэта відаць адна з характэрных якасьцяў. Да прыкладу, у 2011 годзе беларусы цярпліва перанесьлі дэвальвацыю ў амаль 300%. Бадай што толькі аднойчы, у красавіку 1991 г., можна было назіраць масавыя дэманстрацыі і мітынгі рабочых, якія былі рэакцыяй на павышэньне цэнаў на прадуктовыя і прамысловыя тавары. На вуліцы Мінска выйшлі каля 100 тысяч прастаўнікоў рабочага класа з пратэстам супраць роста цэн і з патрабаваньнем зьмены ўрада. Але ў апошнім выпадку цярпеньне людзей лопнула з прычыны пагрозы іх фізічнаму выжываньню, што ніяк да характарыстыкі ментальнасьці беларусаў не належыць. Часам думаецца, што не свабода, а элементарнае выжываньне з'яўляецца галоўным пытаньнем для беларусаў. Але з другога боку, пакідаючы па-за увагай біялагічны інстынкт фізічнага выжываньня, можна казаць і пра феномен беларускай ментальнасьці выжываньня, выпеставаны і адшліфаваны на працягу стагоддзяў. Каб выжыць трэба быць яшчэ працавітым, спакойным, пазьбягаць экстрымаў і канфліктаў, быць спагадлівым, разважлівым – у цэлым быць памяркоўным. Памяркоўнасьць, магчыма ад прыроды,

але і дадаткова адаптаваўшаяся падчас бальшавіцкіх і польскіх перасьледаў, падчас войн (дзьве вайны з немцамі, безліч войн з Масковіяй, адна толькі вайна 1654-1657 г.г. забрала палову беларускага насельніцтва), відаць прадвызначае спосаб жыцьця беларусаў, іх прыстасаваньне да тых умоў існаваньня, дзе памкненьні да свабоды заўжды караліся ці караюцца. І хаця, будучы памяркоўным вольным не станеш, беларускую ментальнасьць выжываньня ў гэтым кантэксьце цяжка апраўдаць, але магчыма зразумець. Можна меркаваць, што дзякуючы менавіта ёй яшчэ зьберагаецца мінімальны ўзровень беларускасьці, аб чым сьведчаць некалькі спроб беларускага адраджэньня ў мінулым стагоддзі, і магчыма, што яе яшчэ ўдасца аднавіць і памножыць у гэтым стагоддзі. Выхаваньне і развіцьцё беларускасьці, сцьвярджэньне годнасьці і самабытнасьці беларусаў спрычыняцца ў будучыні і да будаўніцтва нацыянальнай дзяржавы, што патрабуе працяглага часу, кансалідацыі сіл нацыянальнай эліты і ўдзелу самой дзяржавы.

Па сваёй адукаванасьці і нават па ўзроўню жыцьця Краіна Беларусь магла б адпавядаць еўрапейскім стандартам, чаго нельга яшчэ сказаць пра ўзровень ментальнасьці. Беларусы недастаткова талерантныя ў адносінах да прадстаўнікоў іншых этнасаў, рас, рэлігій, сексуальных меньшасьцяў, не падрымліваюць у большасьці адмену сьмяротнага пакараньня. Усе гэтыя асьпекты беларускай ментальнасьці альбо беларускасьці патрабуюць далейшага выхаваньня без чаго складана спадзявацца на разуменьне народаў цывілізаваных краін у эпоху глабалізацыі. Улічваючы, што па многіх асьпектах дзяржава не праводзіць адпаведную гэтым каштоўнасьцям палітыку не выпадае разлічваць на хуткае выпраўленьне сітуацыі. Тыя нязначныя парасткі беларускасьці, якія яшчэ зберагаюцца і распаўсюджваюцца прадстаўнікамі нацыянальнай эліты, падаўляюцца страхамі аб страце незалежнасьці і суверэнітэту краіны, катастрафічным станам Мовы, уціскам расійскай культуры. Рэсурсы, якія ёсьць у прадстаўнікоў нацыянальнай эліты невялікія, як па колькасьці людзей якія займаюцца гэтымі праблемамі, так і па сродках давядзеньня да насельніцтва прапаноўваемых ідэй па выхаваньню беларускасьці. Падтрымка з боку інстытутаў цывілізаваных краін неабходная, але не вырашальная.

Відавочна, што дадзеная завочная канферэнцыя з’яўляецца адным з цікавых падыходаў да абмеркаваньня існуючых праблем і генерацыі новых ідэй у галіне беларускасьці. Хочацца верыць, што апроч традыцыйных публікацый больш кансалідавана для асьветніцкай працы сярод беларускага насельніцтва будзе выкарыстоўвацца інтэрнэт. Паводле інфармацыі Міжнароднага тэлекамунікацыйнага саюза ў Беларусі інтэрнэтам карыстаецца 47% насельніцтва – гэта нямала (хоць з гэтым пакаьнікам краіна займае 79-е месца ў сьвеце са 192

краінаў). На сёньня гэта амаль адзіны рэальны інстумент для шырокага данясеньня інфармацыі да беларусаў. Аднак у беларускай інтэрнэт-прасторы няма салідарнасьці – вы з цяжкасьцю можаце падаць неабходную інфармацыю на такія папулярныя сайты як Радыё «Свабода» і «Хартыя 97», што нельга растлумачыць толькі карпаратыўнымі інтарэсамі гэтых арганізацый, недастаковы і абмен інфармацыяй паміж сайтамі. Сярод прыярытэтных напрамкаў для паляпшэньня ментальнасьці беларусаў, апроч такіх пастаянных і галоўных як веданьне Мовы і гісторыі, трэба вызначыць як мінімум змаганьне за адмену смяротнага пакараньня. Да разуменьня апошняй праблемы цывілізаваныя краіны ідуць дзесяткі гадоў. Але гэта не значыць, што астатнія праблемы менш важныя, і што іх трэба адкласьці на пазьней. Мэтазгодным было б стварэньне стратэгіі развіцьця Беларускасьці як гэта зроблена ў адносінах да Мовы («Стратэгія развіцьця беларускай мовы ў 21 стагоддзі», http://www.tbm-mova.by/mova.html).

*(матэрыял прадстаўлены на завочнай канферэнцыі "Трансфармацыя ментальнасьці грамадзян Беларусі ў кантэксьце выклікаў XXI стагоддзя", Мінск, лістапад 2013)*

Piotra Murzionak: BELARUSKASC AND MENTALITY OF CIVILIZED COUNTRIES

It is evident that Belarusian mentality or Belaruskasc exists for ever. However, the question is how it had changed during the last century and in what degree it correspondents to the mentality of modern society. It is clear that the development of Belaruskasc is substantially delayed due to specific conditions of being on the border line of colliding between the East and the West or between Bysantium and Rome. The episodic development of Belaruskasc in the 20th century was possible mainly due to beneficial external factors. Belarusian nation is still not established. It is very problematic that the impovement and progress in Belarusian mentality/ in Belaruskasc nowdays might be occurred in russian-speaking environment. The language problem is not only the problem of belarusian population but the problem of belarusian elite who is going to establish the strategy for mentality education for Belarusians while itself has to think in Belarusian. Despite of the country independence, solid ethnic and historical base the country is still beyond the "Berlin wall", without any attempts to a dialogue with civilized societies.

Mentality being a key factor for nation-building is not the important issue for Belarusian state. It appears Belarus demonstates a religion intolerance providing some preferences only for Orthodox church. Belarusian government creates an environment where 91.5% of population are not interested in external and internal politics of the state at all. Additionally, Belarusians are mainly intolerant to the representatives of other ethnic groups, "unknown" religions, sexual minorities, and do not support an abondance of death penalty. Some explanation of such intolerance but not its rehabilitation might be found in the discussed phenomenon of Belarusian mental surviving which is a sort of mental instinct developed for centures of suppressions and which helped to protect a minimal level of Belaruskasc.

It is assumed that population education and even quality of life might be close to European standards but mentality. The national elite has not enough resources to support the development of required mentality level. Ideally, this is a task for the state itself. A support of external insitutions is imporatant but not conclusive. The role of electonic mass media in the development of Belaruskasc and the creation of special strategy for that are discussed.

**ТАДЭУШ СТРУЖЭЦКІ: І ЗАГУЧАЛІ СТАРАДАЎНІЯ АРГАНЫ**

Упершыню ў музычнай сталіцы Паазер’я 19 – 20 кастрычніка бягучага года адбыўся фестываль “Гучаць старадаўнія арганы Пастаўшчыны”, які стаў не толькі важнай, але і адметнай культурнай падзеяй, новым праектам па адраджэнні багатай музычнай спадчыны Беларусі. Для яго рэалізацыі Пастаўшчына мела ўсе падставы: і даўнія музычна-культурныя традыцыі, і адпаведную матэрыяльна-тэхнічную базу, і падрыхтаваную публіку, і граматных зацікаўленых арганізатараў. Можа таму і рыхтаваўся фестываль хутка і з добрым настроем, з чакаемым поспехам. Але ўсё па парадку.

Сёння ў Беларусі налічваецца каля ста арганаў, якія ў большасці сваёй усталяваны ў каталіцкіх касцёлах, а касцёлы па сваёй сутнасці здаўна былі і застаюцца не толькі духоўнымі, але і грамадска-культурнымі цэнтрамі. Пастаўскі раён і ў гэтым сэнсе застаецца ўнікальным – у добрым стане захаваны ажно чатыры старадаўнія арганы, старэйшаму з якіх у касцёле Святога Тадэвуша у Лучаі ўжо больш за два стагоддзі. Дзякуючы міжнароднаму фестывалю народнай музыкі “Звіняць цымбалы і гармонік” Пастаўскі касцёл Беззаганнага зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі і Святога Андрэя Падуанскага стаў пастаяннай выдатнай пляцоўскай для класічных канцэртаў, на якой ужо выступалі лепшыя прафесійныя і аматарскія калектывы з Беларусі і іншых краін.

Словы ўдзячнасці неабходна выказаць і ксяндзам-пробашчам касцёлаў, якія дбаюць аб арганах, спрыяюць падтрымцы іх у рабочым стане. Як сказаў у час канцэрта пробашч Камайскага касцёла Яцэк Гутман – “арган – гэта жывы арганізм, з ім можна размаўляць, яго трэба штодзённа даглядаць”.... А ксёндз-пробашч Пастаўскага касцёла Андрэй Возняк з паўслова падтрымаў ідэю фестывалю, стаў яго актыўным і дасведчаным арганізатарам.

У мястэчку Камаі нарадзіўся, быў ахрышчаны і пачаў музыцыраваць на аргане мясцовага касцёла Святога Яна Прадвесніка Браніслаў Руткоўскі – будучы вядомы беларуска-польскі арганіст і кампазітар 20-га стагоддзя, прафесар, музычны крытык і арганізатар міжнародных фестываляў арганнай музыкі ў Польшчы і Германіі.

У рамках фестывалю ў чатырох касцёлах у Паставах, Камаях, Лынтупах і Лучаі адбылося 5 арганных канцэртаў, у якіх прынялі ўдзел лепшыя беларускія арганісты – народны артыст Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі, прафесар Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, лаўрэат міжнародных конкурсаў Ігар Алоўнікаў і яго вучаніца, лаўрэат міжнародных конкурсаў, выкладчыца Мінскага дзяржаўнага

каледжа мастацтваў Кацярына Мікалаева, лаўрэаты міжнародных конкурсаў саліст Белдзяржфілармоніі Канстанцін Шараў і салістка канцэртнай залы “Сафійскі сабор” у Полацку Ксенія Пагарэлая. Кожнае выступленне слухачамі ўспрымалася з непрытоенай увагай і вялікім задавальненнем. Да выканаўцаў пасля канцэртаў падыходзілі шматлікія слухачы, дарылі кветкі і падарункі. Сярод ганаровых гасцей фестывалю былі прэлат, прадстаўнік Рыма Дон Карнэліа, ксёндз-магістр і кандыдат гістарычных навук, пробашч касцёла Святых Сымона і Алены ў Мінску Уладзіслаў Завальнюк, дыпламат і былы старшыня Нацыянальнай камісіі ЮНЭСКА Уладзімір Счасны.

Фестываль не змог бы адбыцца без вельмі зацікаўленай падтрымкі з боку мясцовых улад і работнікаў культуры. Намеснік старшыні Пастаўскага райвыканкама Юрый Кісялёў стаў яго сапраўдным апекуном.

І арганізатарамі, і ўдзельнікамі фестывалю, і мясцовымі жыхырамі неаднаразова выказваліся прапановы зрабіць яго пастаянным, запрашаць для ўдзелу ў ім і замежных выканаўцаў. Зацікаўленыя адносіны кіраўніцтва раёна і каталіцкага духавенства напэўна дазволяць стаць фестывалю традыцыйным, які не толькі пашырыць палітру культурных імпрэз, але і будзе яшчэ адным брэндам Пастаўшчыны, што паспрыяе развіццю культурна-гістарычнага турызму ў цэлым рэгіёне.

Плануецца, што фестываль стане пачаткам рэалізацыі цэлай праграмы адраджэння старадаўніх арганаў на Беларусі. Зацікаўленую падтрымку гэтага праекта выказалі Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі Тадэвуш Кандрусевіч, кіраўніцтва Беларускай дзяржаўнай філармоніі і Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, а таксама Польскага інстытута ў Мінску. Правядзенне фестываляў у розных рэгіёнах краіны паспрыяе захаванню саміх арганаў і збору фінансавых сродкаў на іх рэстаўрацыю. Галоўнае, каб гэта праца праводзілася з удзелам спецыялістаў, з прыцягненнем, пры неабходнасці, і замежных экспертаў. Старадаўнія і ўнікальныя арганы у бліжэйшай перспектыве могуць быць уключаны ў спіс гісторыка-культурнай спадчыны, стаць сапраўднымі музейнымі экспанатамі.

Наяўнасць і рэгурярнае выкарыстанне арганаў паспрыяе фарміраванню канцэртных залаў у касцёлах для прэзентацыі і папулярызацыі класічнага музычнага мастацтва, падштурхне да пашырэння падрыхтоўкі беларускіх музыкантаў-арганістаў. Гэта праграма стане адной з прыярытэтных і для Беларускага фонда культуры.

*Тадэуш Стружэцкі - аўтар праекта і адзін з арганізатараў фестывалю*

## НЭЛЬСАН МАНДЭЛА: ПРАМОВА ПРЫ ЎСТУПЛЕНЬНІ Ў ПАСАДУ ПРЭЗІДЭНТА ПАЎДНЁВА-АФРЫКАНСКАЙ РЭСПУБЛІКІ

(Прэторыя, 10 мая 1994 года)





«Вашы Вялікасьці, Вашы Высокасьці, паважаныя госьці, таварышы і сябры!

Сёньня ўсе мы, нашай прысутнасьцю тут, і нашымі сьвяткаваньнямі ў іншых частках краіны і сьвету, дорым трыумф і надзею нованароджанай свабодзе.

З перажываньняў надзвычайнага чалавечага гора, якое цягнулася так доўга, павінна нарадзіцца грамадства, якім будзе ганарыцца ўсё чалавецтва.

Штодзённыя справы звычайных паўднёваафрыканцаў павінны стварыць сучасную рэальнасьць Паўднёвай Афрыкі, якая ўзмацніць веру чалавецтва ў справядлівасьць, у высакароднасьць чалавечай душы і падтрымае ўсе яго надзеі на цудоўнае жыцьцё для ўсіх.

Усяму гэтаму мы абавязаны, як самім сабе, так і людзям сьвету, якія так значна прадстаўлены тут сёньня.

Мае суайчыньнікі, я без ніякага сумневу кажу, што кожны з нас так цесна зьвязаны з зямлёю нашай цудоўнай краіны як і знакамітыя джакарандавыя сады Прэторыі і мімозы саваны.

Кожны раз, калі хтосьці з нас датыкаецца да глебы нашай зямлі, мы адчуваем асабістае адраджэньне. Нацыянальны настрой мяняецца разам са зьменай пары года. Мы ўзрушаны пачуцьцём радасьці і захапленьня калі зелянее трава і квітуць кветкі.

Гэта духоўнае і фізічнае адзінства, якое мы падзяляем з нашай айчынай, высьвятляе той глыбокі боль, які мы перанесьлі ў сваіх сэрцах, калі бачылі нашу краіну ў

жудасных канфліктах, і калі мы бачылі яе адвергнутай, па-за законам і ізаляванай народамі сьвету, менавіта таму, што яна стала універсальнай базай згубнай ідэалогіі і практыкі расізму і расавага прыгнёту.

Мы, народ Паўднёвай Афрыкі, адчуваем задавальненьне ад таго, што чалавецтва прыняло нас у сваё ўлоньне, што мы, якія былі па-за законам не так даўно, сёньня атрымалі рэдкі прывілей быць гаспадаром для народаў сьвету на нашай уласнай зямлі.

Мы дзякуем усім нашым паважаным гасцям за тое, што яны прыйшлі, каб падзяліць з народам нашай краіны тое, што ў рэшце рэшт, з'яўляецца агульнай перамогай за справядлівасьць, за мір, і за чалавечую годнасьць.

Мы спадзяёмся, што вы і надалей будзеце стаяць побач з намі, калі мы будзем вырашаць праблемы пабудовы міра, дабрабыту, не-сексізма, не-расізма і дэмакратыі.

Мы глыбока цэнім тую ролю, якую наш народ і іх лідэры, палітычныя, рэлігійныя, жаночыя, моладзевыя, прадпрымальніцкія, а таксама традыцыйныя і іншыя лідэры адыгралі ў тым, каб атрымаць гэты вынік. Не апошняе месца сярод іх мае мой другі намесьнік прэзідэнта, шаноўны дэ Клерк.

Мы таксама хацелі б аддаць належнае нашым сілам бясьпекі, ва ўсіх сваіх шэрагах, за тую высокую ролю, якую яны адыгралі ў забеспячэньні нашых першых дэмакратычных выбараў і пераходу да дэмакратыі, і засьцераглі ад крыважэрных сіл, якія да гэтага часу адмаўляюцца ўбачыць сьвятло.

Прыйшоў час гаіць раны.

Настаў момант злучыць прорвы, якія падзяляюць нас.

Прыйшоў час будаваць.

Мы нарэшце дасягнулі нашага палітычнага вызваленьня. Мы абавязуемся вызваліць усіх нашых людзей ад безупыннага цяжару галечы, пазбаўленьняў, пакут, палавой і іншай дыскрымінацыі.

Нам удалося зрабіць нашы апошнія крокі да свабоды ва ўмовах адноснага міру. Мы бярэм на сябе абавязацельства пабудовы поўнага, справядлівага і трывалага міру.

Мы перамаглі ў барацьбе за прабуджэньне надзеі ў грудзях мільёнаў нашых людзей. Мы клянёмся, што будзем будаваць грамадства, у якім усе паўднёваафрыканцы, як чорныя, так і белыя, будуць мець магчымасць хадзіць з гонарам, без страху ў сваіх

сэрцах, упэўненыя ў сваім неад'емным праве на чалавечую годнасьць - нацыя-вясёлка ў згодзе з сабой і сьветам.

У знак сваёй прыхільнасьці да абнаўленьня нашай краіны, новы Часовы ўрад нацыянальнага адзінства будзе ў тэрміновым парадку вырашаць пытаньне аб амністыі для розных катэгорый нашых людзей, якія ў цяперашні час пазбаўлены волі.

Мы прысьвячаем гэты дзень для ўсіх герояў і гераінь нашай краіны і ўсяго сьвету, якія ахвяравалі сваё жыцьцё для таго, каб мы маглі быць свабоднымі.

Іх мары сталі рэальнасьцю. Свабода - іх ўзнагарода.

Мы прымаем з пакорам і з захапленьнем той гонар і прывілей, які вы, народ Паўднёвай Афрыкі, даравалі нам, як першаму Прэзідэнту адзінай, дэмакратычнай, нерасавай і несексісцкай Паўднёвай Афрыкі, для таго, каб вывесьці нашу краіну з даліны цемры.

Мы разумеем усё ж, што няма простых шляхоў да свабоды.

Мы добра ведаем, што ніхто з нас паасобку не зможа дамагчыся посьпеху.

Таму мы павінны дзейнічаць разам як адзіны народ для нацыянальнага прымірэньня, для дзяржаўнага будаўніцтва, для нараджэньня новага сьвету.

Хай будзе справядлівасьць для ўсіх.

Хай будзе спакой для ўсіх.

Хай будзе праца, хлеб, вада і соль для ўсіх.

Хай кожны ведае, што цела, розум і душа кожнага вызвалены для таго, каб рэалізаваць сябе.

Ніколі, ніколі і ніколі не павінна зноў здарыцца так, каб наша выдатная зямля нанова перажыла прыгнёт аднаго чалавека другім і пакутавала ад такой зьнявагі, як быць пагардаю сьвету.

Хай правіць свабода.

Сонца ніколі не павінна спыніцца на такім слаўным дасягненьні чалавека!

Бог дабраславіць Афрыку!

Дзякуй.»

*Пераклад Пятра Мурзёнка*

*****************************************************************************

*Нэльсан Мандэла (18.07.1918 - 5.12.2013) - першы чорнаскуры прэзідэнт Паўднёва-Афрыканскай Рэспублікі (10 мая 1994 - 14 чэрвеня 1999), адзін з самых вядомых актывістаў у барацьбе за правы чалавека ў перыяд існаваньня апартэіду, 27 гадоў сядзеў за гэта ў турме, лаўрэат Нобелеўскай прэміі міру 1993, прэзідэнт Афрыканскага Нацыянальнага Кангрэсу.*

**ПЁТРА МУРЗЁНАК: Аб рэалізацыі праекта «РАЗАМ»**

Дарагія чытачы!

Паведамляем Вам, што часопіс «САКАВІК» працягвае сваю актыўнасьць у рамках праекта «РАЗАМ». У дадатак да падрыхтоўкі кароткіх інфармацыйных матэрыялаў у выглядзе ўлётак будзе ствараацца Бібліятэка слайд-паказаў «БЕЛАРУСЬ НАЗАЎСЁДЫ». Лічым, што слайд-паказы таксама з'яўляюцца добрай формай падачы кароткіх адукацыйных матэрыялаў.

Тры першыя серыі слайдаў з Бібліятэкі «БЕЛАРУСЬ НАЗАЎСЁДЫ» будуць зьмешчаны на вэб-сайце ў першай палове студзеня 2014 года. Гэта наступныя серыі:
«Беларуская Дзяржаўнасьць»,
«Полацкае Княства»,
і «Вялікае Княства Літоўскае».

Умовы выкананьня праекта «РАЗАМ», апублікаваныя на старонках вэб-сайта і часопіса «САКАВІК» (№2 за чэрвень 2013), застаюцца ранейшымі.

Разумеючы, што выкананьне праекта «РАЗАМ» у асноўным будзе прыпадаць на супрацоўнікаў часопіса, вітаем удзел нашых чытачоў у праекце.

З найлепшымі пажаданьнямі,
Пётра Мурзёнак

*Наступны нумар часопіса «САКАВІК» выйдзе ў сярэдзіне сакавіка 2014 года.*